беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Адноўленая тамсама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску штотыднёва

# НАША НІВА

№ 4 (42)
29 сакавіка 1996 г.
пятніца

КУЛЬТУРА, ПАЛІТЫКА

РЭДАКЦЫЯ ГАЗЕТЫ НАША НІВА БЕЛАРУСЬ г. МІНСК

ТЭЛЕПРАГРАМА

БІРЖА ПРАЦЫ

■ **24.III.1996**

## Салідарнасьць

Салідарнасьць — гэта калі мы разам, калі нас многа, калі ты адчуваеш еднасьць з абсалютна незнаёмымі табе людзьмі, еднасьць у радасьці, і ў горы, і ў барацьбе, бо ты маеш зь імі супольную мэту.

Салідарнасьць — вось галоўнае пачуцьцё Дня Волі. Зазвычай мы чужыя адзін аднаму. За колькі дзясяткаў гадоў нас прывучылі да няўдзячнасьці, жорсткасьці, лаянкі, узаемнай нянавісьці. На вуліцы, у краме, у мэтро кожны думае пра сваё і кожны мае сваю справу.

У нядзелю мы мелі агульную справу. Мы зьведалі салідарнасьць радасьці. Экспрэсія пачуцьця, памножаная ў грамадзе, сьцірае межы паміж людзьмі, і мне становіцца нечакана блізкі і вусаты дзядзька з заводу, што стаіць поруч, і вясковая бабулька ў хустцы, што спэцыяльна прыехала ў Менск паглядзець на Пазьняка, і сьмяшлівы студэнт, што расказвае ўжо каторы анэкдот пра "ўсенародна абранага". Для ўсіх нас гэта своеасаблівы момант яднаньня душаў, і калі мужчыны ўскідваюць рукі ў воклічы "Жыве Беларусь!", бабулька прытуляе рукі да грудзей, і ўсьміхаецца шчасьліва так, як толькі могуць усьміхацца спрацаваныя вясковыя кабеты.

Так, мы былі разам у той дзень. І мы былі адзіныя ня толькі ў радасьці, але і ў нашай моцы, і ў сіле нашага гневу. Адчуваньне, што ты ёсьць частка велізарнай магутнай грамады, натхняе цябе і мацуе твой голас. Воклічы "Незалежнасьць!", "Далоў Лукашэнку!", якія лунаюць над сонечным праспэктам, над дзясяткамі тысяч галоваў, акрыляюць ня толькі цябе. Псыхічная энэргія натоўпу дае сілы зьняверaным і абыякавым. Людзі чапляюць сьцяжкі на тралейбусах і машынах, высоўваюцца з вокнаў, каб памахаць нам рукой, а то папросту выходзяць і крочаць поруч. Для некаторых гэта першы крок да абуджэньня веры. Веры ў Бацькаўшчыну, у народ, але найперш — веры ва ўласныя сілы, у тое, што разам можна адолець, здавалася б, неадольны страх перад рэжымам.

А потым было хрышчэньне ў новую веру. Хрышчэньне газам, крывёю і сьнегам. Міліцыянты спрабуюць разагнаць натоўп, і ўся іх сытая нянавісьць абрушваецца на нас. Мы прагнем не набітага трыбуху, а свабоды Бацькаўшчыны, і яны люцеюць ад няздольнасьці гэта зразумець. Вось азьвярэлы дзяцюк бяжыць за старою кабетай. Схапіўшы яе за шыю, ён крычыць: "Адказвай, сука, колькі даляраў табе заплацілі!" А вось другі даганяе немаладога ўжо інтэлігента зь бел-чырвона-белым сьцягам. Пэнсіянэру ўжо не стае сілаў, ён спыняецца і тут жа падае на асфальт ад удару дубінкай. Міліцыянт выцягвае сьцяг з-пад мужчыны і... старэнькая бабуля па-дзіцячы жвава падбягае да яго і вырывае сьцяг. Рукі бабулі сьціскаюць сьцяг так моцна, а ў позірку столькі ўпэўненасьці ды пагрозы, што зьнякавелы боўдзіла паварочваецца ды бяжыць назад.

У адказ у бок міліцыянтаў ляціць сьнег, лёд, пустыя бутэлькі. Сьнег кідаюць усе, хто можа і хто ня можа. Нават пэнсіянэр, што ляжыць на лаўцы з разьбітым у кроў тварам, падымаецца і хапае кавалак лёду. Кроў засьцілае яму вочы, ён ня бачыць і ня можа кінуць, аднак упарта сьціскае лёд у руцэ.

Значнасьць Дня Волі-96 ня ў тым, што гэта была найбольшая палітычная акцыя ў Беларусі за апошнія чатыры гады. Галоўнае тое, што зьмяніўся сам склад удзельнікаў і зьмяніліся іх паводзіны. Ніколі яшчэ не было гэтак многа моладзі на мітынгах. Другога красавіка а 10-й гадзіне мы будзем на плошчы Незалежнасьці. Гэтага вымагае нашая салідарнасьць, якая сталася незваротнай.

*Пятро Рагойша*

**НАПЯРЭДАДНІ**

*Юры Захаранка:*

## "Пасьля выступленьня ў парлямэнце я зраблю заяву..."

Ці прыме Вярхоўны Савет адстаўку Ю.Захаранкі, якога бяз згоды парлямэнту А.Лукашэнка зьняў з пасады міністра ўнутраных справаў? На месца Захаранкі (і таксама бяз згоды ВС) ужо прызначаны новы міністар — Валянцін Агалец. Толькі ў гэтым эпізодзе прэзыдэнт парушыў Канстытуцыю двойчы. І заўтра, калі Ю.Захаранка будзе выступаць у Авальнай залі, парлямэнту давядзецца выбіраць паміж ім і А.Лукашэнкам, паміж прэзыдэнтам і законам. Напярэдадні гэтых падзеяў карэспандэнт "Нашай Нівы" Алег Дашкевіч узяў інтэрвію ў Юрыя Захаранкі.

*Старонка 2.*

***РАСПАД Расеі непазьбежны, — лічаць расейскія навукоўцы. Да непадсільнага энэргетычнага цяжару і эканамічнага крызысу дадаецца дэмаграфічны цяжар імпэрыі — найвялікшая дзіцячая і агульная сьмяротнасьць. У гэтым нумары "НН" мы падаем вынікі найноўшых дасьледаваньняў расейскіх вучоных у галіне эканомікі, энэргетыкі і дэмаграфіі. Перад тым, як уступаць у саюз з усходнім суседам і чакаць ад гэтага злучэньня лепшага жыцьця для ўсіх нас, мы павінны ведаць Расею, разумець Расею, спачуваць Расеі...***

*Старонкі 2 і 20.*



*Вынікі сьвяткаваньня Дня Волі 24 сакавіка ў Менску: блізу дзесяці чалавек шпіталяваныя, больш за трыццаць затрыманыя міліцыяй. Асабліва жорсткія сутычкі паміж удзельнікамі мітынгу й міліцыяй адбыліся каля тэлецэнтру і ў раёне будынку КДБ. Улады шукаюць зачыншчыкаў. На думку прэс-сакратара БНФ Сяргея Навумчыка, улады рыхтуюць забарону Фронту.*

# ВЫКЛІК

**Беларускаму грамадзтву кінуты культурна-цывілізацыйны выклік.**

За папярэдніх дзесяць гадоў адбылася інстытуалізацыя, афармленьне беларускай супольнасьці. Грамадзтва, сфармуляваўшы свае адмысловыя інтарэсы, перастала быць тоесным дзяржаве. Апроч адзінак дысыдэнтаў зьявіліся цэлыя плыні жыцьця, незалежныя ад дзяржавы й афіцыйнае ідэалёгіі. Вынікам эвалюцыі мусіла стаць пастаноўка дзяржавы на службу супольнасьці, што адбывалася б праз складаны працэс самаацэнкі грамадзтва, праз дыскусіі адносна эфэктыўнаўсьці сацыяльных інстытутаў.

Сёньня падпарадкаванае маніякальнай мэце зрабіць аднаго чалавека галавою 1/6 плянэты, беларускае кіраўніцтва, як зачараванае, вядзе грамадзтва да ізаляцыі — інфармацыйнай, культурнай, палітычнай. Беларусь толькі пачала абжывацца ў сваёй культурна-цывілізацыйнай Радзіме — Сярэдняй Эўропе, як цяпер яе зноў спрабуюць выштурхнуць з кола суб'ектаў гісторыі.

У Маскве ва ўрадзе многім міністрам болей блізкія ідэі эўрапейскага лібэралізму, чым кіраўніцтву Беларусі. У нейкім сэнсе некаторыя маскоўскія міністры ў параўнаньні зь беларускімі лідарамі — эўрапейцы. Але гэта зусім не азначае, што пры абсалютнай залежнасьці ад Расеі Беларусь стане больш сучаснаю дзяржаваю. Расейская дзяржава пабудавана паводле канцэпцыі жорсткага цэнтралізму. Цемрашальства ўскраінных губэрняў толькі падкрэсьлівае лібэралізм сталіцы. Просталінейных сувязяў тут няма. Усё падмяняецца тэзаю:

*Працяг на старонцы 2*

**КВЕТКІ ДЛЯ "НАШАЙ НІВЫ"**

26 сакавіка ў менскай бібліятэцы №7 імя Якуба Коласа з ініцыятывы раённай Рады ТБМ адбылася творчая сустрэча супрацоўнікаў і аўтараў "НН" з грамадзкасьцю. Для жыхароў Серабранкі не было нечаканасьцю пабачыць з намі Ўладзімера Арлова. Гэтым разам калега распавёў пра гісторыю сваіх дачыненьняў з "Нашай Нівою" і яе супрацоўнікамі, прачытаў нашаніўскае эсэ "За што Авін забіў Кавеля?" Пасьля кароткага бліцу "пытаньне-адказ", вечар завяршыўся на паэтычнай ноце. Паэт Славамір Адамовіч дэклямаваў вершы. А пасьля нам падаравалі кветкі. Пунсовыя гваздзікі на доўгіх-доўгіх сьцяблінах. Кветкі для "Нашай Нівы".

*С.Х.*

## навіны 1 радком............

ПАМЫЛКА. Прэзыдэнт Расеі Ельцын заявіў, што ня можа быць гаворкі пра стварэньне адзінай зь Беларусяй дзяржавы. Ён сказаў, што, мабыць, нехта нешта паблытаў.

ВЫБАРЫ. Лі Дэнхуэй быў абраны прэзыдэнтам Тайваня на першых дэмакратычных выбарах насуперак узмоцненым пагрозам Пэкіну, які адмаўляе Тайваню ў незалежнасьці.



ВІЗЫТ. Каралева Вялікабрытаніі Элізабэта II разам з мужам наведала Польшчу. Гэта першы ў гісторыі афіцыйны візыт брытанскіх манархаў у Рэч Паспалітую.

ДЫПЛЯМАТЫЯ. Генэральныя консульствы Рэспублікі Беларусі ў Італіі, Румыніі, Галяндыі ды Канадзе пераўтвораныя ў пасольствы.

ВЫБАРЫ-2. Цяперашні прэзыдэнт Татарстану Шаймiеў зноў перавыбраны на гэтую пасаду на безальтэрнатыўнай аснове.

ГРОШЫ. ЗША ўвялі ў абарачэньне новыя 100-даляравыя купюры. Старыя застаюцца ва ўжытку.

БЕСПРАЦОЎЕ. У Нямеччыне колькасьць беспрацоўных перавысіла 4 мільёны чалавек, гэта самы высокі пdescribed пакаьнік у Заходняй Эўропе.

ШЛЮБ. Гомасэксуальныя шлюбы, а таксама шлюбы паміж роднымі братамі ды сёстрамі неўзабаве могуць быць юрыдычна прыраўнаныя да звычайных. У галяндзкім парлямэнце пачаліся дэбаты за наданьне "альтэрнатыўным" шлюбам афіцыйнага статусу.

ШЛЮБ-2. Чарнаскуры прэзыдэнт Паўднёвай Афрыкі Нэльсан Мандэла разьвёўся з сваёй жонкай з-за яе нявернасьці.

ЧЭКІ. Прыём заяваў абналічэньні прыватызацыйных чэкаў "Маёмасьць" заканчваецца 30 красавіка. Выдаваць самі чэкі будуць да 1 ліпеня.

КАРА. Гандлярам ці кантрабандыстам наркотыкаў цяпер будзе выносіцца сьмяротны прысуд у Кувэйце ды Аб'яднаных Арабскіх Эміратах.

ОСКАР. Фільм "Адважнае Сэрца" рэжысэра Мэла Гібсана зь ім самім у галоўнай ролі заваяў "Оскара" за найлепшы фільм. Гэта відовішчны эпас пра паўстаньне шатлянцаў супраць ангельцаў у XIII ст.



■ **ЛІТАРАТУРА**

# УМБЭРТА ЭКА

Пад уплывам першага рамана Ўмбэрта Эка ў Эўропе павялічылася колькасьць студэнтаў на аддзяленьнях сярэднявечнае гісторыі... Італьянскаму пісьменьніку, чыё імя сёньня адначасова ўзначальвае сьпісы бэстсэлераў інтэлектуальнай і папулярнай літаратуры, прысьвечаны гэты нумар "НН".

*Старонкі 4-5 і 22-23.*

# ВЫКЛІК

Працяг са старонкі 1

"Берасьце — заходні рубеж". Праблема культурнай арыентацыі апынаецца болей важнай, чым чыста эканамічныя пытаньні: экономіка ўсё адно патрэбна іншая, ад культурнае арыентацыі залежыць існаваньне супольнасьці.

Вынікам намаганьняў цяперашняга кіраўніцтва Беларусі стане поўная дэградацыя народнай гаспадаркі. Канфэдэратыўныя ідэі, якія эканамічна і ідэалягічна абгрунтоўваюцца тэзаю доступу да сыравінных рэсурсаў, сацыялягічна можна вызначыць як спробу ўратаваць старую індустрыйную цывілізацыю. Канфэдэрацыя з Расеяй кансэрвуе беларускую эканоміку, ня проста захоўвае яе на старым тэхналягічным узроўні, а паступова ператварае яе ў кучу мэталялому. Дарагія, няякасныя, неэкалягічныя тавары, якія прадукуюць гіганты сацыялістычнай індустрыі, перарабляюцца ў штучныя кветкі на могілках утапічных сацыяльнай і імпэрскай ідэяў.

Шанец для беларускай гаспадаркі — інтэграцыя ў сусьветную эканоміку. З пачаткам таго працэсу, дарэчы, і быў зьвязаны працэс станаўленьня беларускага грамадзтва, дзе грамадзтва можна разумець як гаспадарку з усёю інфраструктураю. Сёньня мы канстатуем узрастаньне супярэчнасьцяў паміж грамадзтвам і дзяржаваю. Наступ таталітарнай дзяржавы вядзе да спрашчэньня формаў сацыяльнага жыцьця ў Беларусі, прафанацыі праяваў грамадзкае дзейнасьці — забараняюцца прафсаюзы, ізалююцца партыі, не рэгіструюцца прыватныя фірмы, закрываюцца недзяржаўныя ўнівэрсытэты... Усе афіцыйныя газэты ператвараюцца ў адну вялізную газэту, якая выходзіць пад рознымі назвамі. Беларусі прапануюць вельмі жорсткія іерархічныя сыстэмы кіраваньня, у той час як эвалюцыя грамадзтва мусіла прывесьці да ўтварэньня функцыянальна дыфэрэнцаванай супольнасьці, у якой няма ні цэнтру, ні верхавіны, дзе грамадзтва магло б выступаць як грамадзтва й быць прадстаўленым у якасьці такога. У такім функцыянальна дыфэрэнцаваным грамадзтве губляе актуалію праблема няроўнасьці як прынцыпу ўпарадкаваньня. Цяпер жа ў Беларусі будзе дазволена багацець толькі абранаму колу людзей, у залежнасьці ад блізкасьці да ўтрапёнага.

У беларускім грамадзтве павінна быць усьведамленьне таго бяздоньня, да якога падведзена нашая краіна. Узьнікла пагроза існаваньню беларускага грамадзтва як самастойнага самапрадуктыўнага фэномэну.

Адначасова трэба ведаць глябальныя тэндэнцыі: 1) сёньня экономікаю немагчыма эфэктыўна кіраваць з аднаго цэнтру, лёзунг сучасных сыстэмаў кіраваньня — дэцэнтралізацыя; 2) У Расеі няма эканамічных і, высьвятляецца, сыравінных рэсурсаў, каб рэалізоўваць імпэрскую ідэю.

А пяць гадоў незалежнасьці даюць беларускаму грамадзтву вялікі досьвед — мадэрновыя ідэі рынку й дэмакратыі не імпартуюцца ў Беларусь. Гэтыя ідэі могуць быць успрынятыя тутэйшымі інтэлектуаламі, але каб стаць фактарам грамадзкага жыцьця, яны павінны быць прадыскутаваныя тут, адаптаваныя да тутэйшых умоваў, прынятыя выбаршчыкамі як каштоўнасьці. Падобны імпарт не адбываецца нават з Масквы, якая мае сёньня найбольшыя магчымасьці ідэалягічнага ўплыву на беларускае жыхарства.

Патрэба інтэлектуальнае працы — вось досьвед беларускае незалежнасьці.

Важна тое, што беларускае грамадзтва мае свае здабыткі, напрацавана ўжо свая інфраструктура. Каб не апынуцца пасярод ідылічнай начы шызафрэнікаў, грамадзтва валодае сваімі мірнымі сродкамі супраціву. Сумлены чыноўнік можа безь небясьпекі для сябе затрымліваць рэалізацыю абсурдных загадаў, імкнуцца мінімалізаваць разбуральныя наступствы гэтых загадаў; настаўнік можа адхіляцца ад школьных праграмаў, напоўненых атрутаю і хлусьнёю; любы нармальны чалавек можа блякаваць расейскую ды савецкую папсу, якой поўніцца радыё- і тэлеэфір ды кніжныя паліцы — не ўключаць, ня слухаць, не купляць, ня раіць, не дазваляць вырывацца з радыёпрыёмніка ў таксоўцы, у якой вы едзеце, у краме, дзе вы купляеце рэч; усе мы можам падтрымаць незалежныя сродкі масавай інфармацыі й недзяржаўныя інстытуцыі.

Асэнсаваньне бездані, усьведамленьне таго, што наступнаю ахвяраю пасьля Беларусі будзе астатняя Эўропа, павінна скансалідаваць і змабілізаваць беларускае грамадзтва. Тады магчымае існаваньне й нават прадуктыўная дзейнасьць ва ўмовах акупацыі, якая ўжо пачынаецца. Тады можна будзе сказаць, што беларускае грамадзтва прыняло культурна-цывілізацыйны выклік.

*Алег Дзярновіч*

"Наша Ніва"
незалежны тыднёвік

НАША НІВА

заснаваны ў 1906,
адноўлены ў 1991

| | |
|---|---|
| заснавальнік і выдавец | Павал Жук |
| рэдактар | Сяргей Дубавец |
| адказны сакратар | Алег Дзярновіч |
| мастацкі рэдактар | Сяргей Харэўскі |
| рэдактар дадатку "Інфарматар" | Андрэй Лапцёнак |
| макет | Віктар Корзун |
| мантаж | Лявон Раманчык |
| набор | Таццяна Чуйвід |
| стыліст | Антон Кузьміч |
| карэктура | Сяргей Сматрычэнка |
| пры ўдзеле | Сяргея Шупы |
| прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі (тэл. 56-94-36) | Зьміцер Бартосік |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ**
**220123 Менск, а/с 71**
**Тэл./факс 36-76-75**
**Падпісны індэкс 63125**

■ **НАПЯРЭДАДНІ**

*Юры Захаранка:*

# "Пасьля выступленьня ў парлямэнце я зраблю заяву..."



**— Прэзыдэнт грэбуе Канстытуцыяй, а парлямэнт ня мае моцы яго спыніць. У такіх умовах ці застаецца ў сіле Вашае выказваньне пра тое, што па сваёй волі Вы ў адстаўку ня пойдзеце?**

— Так, безумоўна. І маё рашэньне прадыктавана не нейкімісь асабістымі карысьлівымі інтарэсамі. У мяне вельмі баліць сэрца за тую сытуацыю, якая склалася ў Рэспубліцы.

**— Калі ВС не прымае Вашую адстаўку, то Вы застаецеся міністрам. У такім разе як будуць складвацца Вашыя адносіны з прэзыдэнтам і з спадаром Агальцом, які выконвае абавязкі кіраўніка МУС?**

— У адпаведнасьці з Кансытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусі.

**— У журналісцкіх колах Вас называюць фігурай, якая здольная аб'яднаць усіх дэмакратаў і стаць на чале апазыцыі. Ці гэта так?**

— Я хацеў бы, каб у нашай Рэспубліцы слова "апазыцыя" гучала ўсё радзей. Сёньня склалася такая сытуацыя, калі прэзыдэнт растаптаў Канстытуцыю, растаптаў і Вярхоўны Савет, растаптаў і Канстытуцыйны Суд, растаптаў і патрыётаў, сапраўдных патрыётаў Рэспублікі Беларусі. Таму мне вельмі хацелася б, каб і камуністы, і дэмакраты, і фракцыя аграрнікаў і ўсе іншыя партыі нарэшце адчулі тое, што паміж імі на дадзены момант, у дадзенай сытуацыі практычна няма ніякіх адрозьненьняў. Таму што гутарка ідзе пра пагрозу нашаму грамадзтву ў цэлым, пагрозу той маленькай прававой аснове, якая была закладзена раней.

**— Ці бачыце Вы сябе на чале гэтых аб'яднаных сілаў?**

— Пасьля выступленьня ў парлямэнце я пра гэта зраблю заяву.

**— Падчас Вашае службы на пасадзе міністра і падчас Вашае адстаўкі Вы былі папулярныя ў міліцэйскім асяродзьдзі. Ці захавалі Вы гэты ўплыў?**

— Гэта маё жыцьцё. Гэта ня проста служба. Я іншага жыцьця ня бачыў і не ўяўляю. Але я ўяўляў сваё жыцьцё ў абсалютна іншай, у прававой дзяржаве, ад якой мы, на жаль, адкінутыя на некалькі пяцігодак назад.

**— Ці ёсьць у МУС людзі, якія падтрымваюць з Вамі кантакты і здольныя супраціўляцца парушэньню закону?**

— Абсалютна памылковае меркаваньне самога прэзыдэнта, калі ён пераканаготны, што сілу ягонай улады будзе вызначаць штык. Людзі ў нас у Міністэрстве зусім іншыя. Калі й ёсьць нейкая кучка людзей, якія здольныя ісьці на гвалт, супраць свайго ж народу, то гэтая кучка не вызначае сытуацыю ў цэлым у МУС і ў Рэспубліцы. Мне прыемна тое, што я сапраўды не сустрэў літаральна ніводнага чалавека з тых, з кім мне даводзілася працаваць, які б не пацісную мне руку і не сказаў цёплыя і добрыя словы.

**— Якія Вашыя адносіны да ініцыятывы Лукашэнкі і Ельцына ў аб'яднаньні Беларусі і Расеі?**

— Гэта вельмі палітычнае пытаньне. Урэшце, калі казаць пра беларускую палітыку, то беларускія палітыкі павінны былі ўсё ж такі дачакацца прэзыдэнцкіх выбараў у Расеі. І ў мяне няма сумневу, што мінулы прэзыдэнцкі пэрыяд у Расеі мае вельмі сур'ёзныя заганы. Я б нават сказаў — крывавыя. У дадзеным выпадку пазыцыя Лукашэнкі перадусім роднасная паводле духу пазыцыі прэзыдэнта Расеі і вызначаецца тым, каб падтрымаць перадвыбарную кампанію Ельцына. Толькі гэтым тлумачыцца Лукашэнкава пазыцыя сёньня, а зусім ня тым, што ён дбае пра свой народ, які знаходзіцца ў скрайнім, я б сказаў, жывёльным стане. Я цяпер у вёсцы наведаў некалькі сем'яў, літаральна дзесяць хвілін як прыехаў зь сям'і ўдзельнікаў вайны. У мяне сьлёзы на вачах — у такім стане гэтыя людзі.

**— Як Вы думаеце, якую карысьць для сябе можа атрымаць Лукашэнка, падпісваючы гэтае аб'яднаньне?**

— Ён канчаткова страціць давер нават тых людзей, якія верылі ў ягоную прастадушную ўсьмешку. Эйфарыя пройдзе ва ўсіх. Зрэшты, яна ўжо й так прайшла. Я гэта адчуваю на месцах. Самае сумнае або цікавае тое, што як і ў перадвыбарнай кампаніі, так і цяпер я вымушаны выступаць у якасьці абаронцы Лукашэнкі. Настолькі агрэсіўна людзі рэагуюць на яго. І мне даводзіцца неяк згладжваць, маўляў, нам, беларусам, не ўласьцівая такая агрэсія — аж да таго, што мы возьмемся за вілы.

**— Як Вы лічыце, ці падтрымвае беларускі народ у правінцыі тое, што зьбіраюцца падпісваць Лукашэнка і Ельцын?**

— Яны проста не разумеюць сытуацыю, а калі ім сытуацыю растлумачваеш — чым гэта выклікана, — то людзі абсалютна правільна рэагуюць.

**— Дзякуй вялікі за інтэрвію.**

*26 сакавіка, па тэлефоне*

■ **КАМЭНТАР**

# БЕРАЖЫЦЕ ВУШЫ!

***Некалі ў біблейскія часы лічылася, што чалавек ня можа больш за пяць гадоў быць у рабстве. Было сказана: "Ня будзьце рабамі маіх рабоў". Таму ў кожнага нявольніка праз пяць гадоў пасьля паўналецьця быў шанец. Перад брамаю суда ён пацьвярджаў сваё жаданьне вызваліцца з рабства і атрымліваў свабоду. Калі ж раб казаў: "Люблю жонку сваю і дзяцей сваіх і гаспадара свайго", — тады ён заставаўся рабом пажыцьцёва. Перад брамаю яму дзіравілі таўром вуха. Бо вуха не пачула поклічу волі. "Ня будзьце рабамі..."***

Пасьля падзеяў 24 сакавіка ў нашай нацыянальнай апазыцыі зьявіўся шанец — рэзка павысіць свой рэйтынг пасьля году паразаў і маўчаньня. Чаму? Па-першае, людзі зноў не атрымалі аб'ектыўных зьвестак з нацыянальных сродкаў масавай інфармацыі. Чарговы раз мы глядзелі праўду пра тое, што адбылося з намі, праз экран маскоўскае тэлевізіі. Узурпаваныя А.Лукашэнкам беларускія СМІ толькі злосна "камэнтавалі". У такой сытуацыі сіла вуснага слова вырастае шматкроць. Чутка можа стаць гранатаю.

Па-другое, неадэкватна ўжытыя карныя сілы толькі разьятрылі людзей. Паўтарылася сытуацыя 1988 году ў Курапатах, калі людзі не спалохаліся грубае сілы, але пабачылі, якую сілу ўяўляюць яны самі. Гэтым разам зьбіцьцё людзей бачыў увесь сьвет і тут нельга напляцьці хлусьні, як у выпадку са зьбіцьцём дэпутатаў-галадоўнікаў. Гульня з газамі ніяк ня сьцішыць людзей. Іншым разам яны да гэтага будуць гатовыя.

Па-трэцяе, людзі, якія спрабавалі дапамагчы сваім выбраньнікам зьвярнуцца праз тэлевізію да народу, не атрымалі сатысфакцыі. Атрымалі дручкамі па сьпінах. Прычым нізавошта. Цяпер людзі будуць прагнуць расстаўленьня кропак над гэтаю гісторыяй. Наступным разам людзей мусіць быць болей. Тых, якія засталіся незадаволеныя, тых, якім будзе патрэбная праўда, тых, хто паверыў у свае сілы.

Перад судным днём яны знайшлі ў сябе волю, каб прыйсьці на Сьвята. Людзі ёсьць тым, што яны ядуць. Людзі прыйшлі, каб есьці ад хлеба Волі. І сёньня быў Дзень Волі. Людзі прыйшлі, каб ён быў і заўтра.

Што для гэтага трэба рабіць? Гуртавацца вакол партыі? Купляць газэты? Уздымаць сьцягі?

Трэба рабіць усё.

Лукашэнка гатовы пайсьці да злучэньня з Расеяй настолькі, "наколькі яна гатовая нас узяць". Хіба гэта мелі на ўвазе людзі, якія казалі "так" інтэграцыі падчас рэфэрэндуму? Яны мелі на ўвазе пашырэньне эканамічных сувязяў і палітычнага дыялёгу з Расеяй, роўна, як і з Украінаю, краінамі Балтыі, Польшчаю, з усёй Эўропай. Калі сёньня вынесьці на рэфэрэндум пытаньне: "Ці згодныя Вы на Саюз з Таджыкістанам, Кыргыстанам, Казахстанам і Расеяй?", ці атрымае Лукашэнка "картблянш"?

Яшчэ ў 1990 годзе ў сацыяльных апытаньнях 34% беларусаў выказваліся за незалежную Беларусь. Няўжо сёньня гэтая лічба меншая? Ці хочаце Вы, каб Беларусь перастала быць нэўтральнай, бязьядзернай, незалежнай? Страшныя ня самі спробы наблізіцца да Расеі, а тая патаемная дыпляматыя, якую твораць пры зачыненых дзьвярах "айцы" народаў. Страшна, калі ніхто ў краіне ня ведае ні зьместу, ні формы гэтых "аб'яднаньняў".

Лукашэнка хавае свае пляны, бо, як карцёжнік, баіцца, што нехта зазірне ў ягоныя карты. Нехта перашкодзіць яму падпісаць сэпаратнае пагадненьне з Крамлём і дзеля пэрсанальнага палітычнага ачка зьліквідаваць Беларусь як суб'ект міжнароднага права й сусьветнае эканомікі.

Але гэтымі днямі і ў нас ёсьць яшчэ шанец. У нас ёсьць Канстытуцыя, Вярхоўны Савет, Канстытуцыйны Суд і Пракуратура, ёсьць і Савет Міністраў, якіх мусіць зацьвярджаць Вярхоўны Савет. Да іх можа апэляваць нацыя. І нацыя мусіць сказаць, ці хоча яна свабоды.

Калі заўтра да парлямэнту прыйдзе столькі ж людзей, колькі іх было на адным Дні Волі, Вярхоўны Савет мусіць іх выслухаць. Выслухаць людзей, якія ня здолелі выказаць сваіх правоў іншым шляхам, бо іншыя шляхі гвалтоўна перакрытыя адным чалавекам. Досьвед іншых народаў сьведчыць, што ніякія іншыя сродкі тут ня могуць быць больш эфэктыўныя, чым жывы пэрсанальны ўдзел кожнага, хто хоча быць свабодным. Абаронім Канстытуцыю — прыгожы лёзунг. Абаронім ад узурпатара, вінаватага ў развале й занядбаньні краіны.

Паводле Канстытуцыі абавязкі прэзыдэнта могуць быць перапыненыя ў шэрагу выпадкаў, у т.л. і пры сыстэматычным парушэньні Канстытуцыі. Канстытуцыйны суд можа даць поўную інфармацыю, у тым ліку і прававую ацэнку мэтадам вядзеньня міжнародных зносінаў. Пракуратура нарэшце павінна зрабіць заключэньне і наконт інцыдэнту з каляровымі перадвыбарнымі плякатамі Лукашэнкі, і наконт інцыдэнту пад Лёзнам, дзе быў зьмітаваны замах на жыцьцё Лукашэнкі, і даць ім прававую ацэнку, роўна як і дзеяньням ягонай адміністрацыі. Пасьля гэтага Вярхоўны Савет павінен прыняць закон, які б прадугледжваў працэдуру зьняцьця чалавека з пасады прэзыдэнта. Гэта можна зрабіць хутка, у поўнай адпаведнасьці зь літарай закону.

Затым Вярхоўны Савет мусіць, пакінуўшы на пасадзе міністра ўнутраных справаў сп. Захаранку, даручыць яму ўзяць пад ахову дзяржаўную маёмасьць, што знаходзіцца ў распараджэньні Лукашэнкі, а таксама яго самога — да канчатковага разгляду справаў у Пракуратуры, прывесьці прававыя і маёмасныя адносіны ў краіне ў адпаведнасьць з нормамі і духам Канстытуцыі. Калі тыя правапарушэньні, што былі зьдзейсьненыя Лукашэнкам, падчас разгляду Вярхоўным Судом будуць ацэненыя, як недастатковыя, каб пазбавіць яго пасады, тады — закон ёсьць закон. Але ўсё гэта магчыма толькі тады, калі жывыя людзі займуць свае месца перад Вярхоўным Саветам, на пляцы Незалежнасьці. І рэч ня ў тым, ці зьменім мы што, а ў тым, каб ніхто не зьмяніў нас.

"Ня будзьце рабамі..." І беражыце вушы.

*Сяргей Баркоўскі*

# РАСПАД РАСЕІ НЕПАЗЬБЕЖНЫ

*Расейскія навукоўцы лічаць, што ён ужо пачаўся. Артыкул з тыднёвіка "Огонёк"*

## НОВЫ СЬВЕТ

Чаму абрынуўся СССР, чаму разбураюцца гіганцкія імпэрыі, якія раней выглядалі непарушнымі? Што азначае нядаўняе падпісаньне Чарнамырдзіным і Росэлем дакумэнтаў аб частковым эканамічным суверэнітэце Сьвярдлоўскай вобласьці? За "Уральскай рэспублікай" пацягнуліся Калінінградзкая вобласьць, якой паводле яе геаграфічнага становішча сам бог казаў быць самастойнай дзяржавай, ды іншыя рэгіёны краіны. Ці захаваецца Расея як унітарная дзяржава?

## МІТЫ І РЭАЛЬНАСЬЦЬ

Вялікія імпэрыі аб'ядноўваюць вялікія ідэі. Якія напавер — ня што іншае, як вялікія міты.

МІТ НУМАР АДЗІН. Калісьці велічыня краіны і колькасьць насельніцтва сапраўды былі асноўнымі прыкметамі велічы. Калі ўжо дзяржава здолела сьцягнуць пад сваю апеку ці проста каланізаваць больш адсталыя народы, значыць, яе вайсковы, культурны і тэхналягічны ўзровень дастаткова высокі. Аднак у індустрыйную эпоху дэмаграфічны і тэрытарыяльны чыньнікі паступова страчваюць сваё значэньне, на іх месца прыходзіць нейкі агульны і безыдэйны фактар матэрыяльнага дабрабыту, таму індустрыйныя і постіндустрыйныя краіны дасьледнікі называюць спажывецкімі грамадзтвамі.

МІТ НУМАР ДВА. Расейцы дагэтуль думаюць, што Расея самая вялікая краіна. У пачатку стагодзьдзя яна займала трэцяе месца паводле колькасьці насельніцтва ў сьвеце. Да пачатку XXI ст. Расея будзе займаць дзявятае месца паводле колькасьці насельніцтва ў сьвеце. Патрыётаў цешыць, што Расея ўсё яшчэ застаецца самай вялікай паводле тэрыторыі дзяржавай. Аднак гэтая радасьць беспадстаўная. Будучы дэ-юрэ сапраўды самым вялікім дзяржаўным утварэньнем у сьвеце, дэ-факта Расея толькі на пятым месцы паводле велічыні эфэктыўнае (гэта значыць хоць неяк прыдатнае для жыцьця) тэрыторыі. Больш за дзьве траціны тэрыторыі нашай краіны разьмяшчаюцца або вышэй за ізагіпсу 2000 м, альбо на поўнач ад ізатэрмы -2°С. Аплодненая бальшавіцкімі ідэямі Расея сталася адзінай краінай, якая масава вырашыла скарыць Поўнач. Толькі ў Расеі ў зоне экстрэмальных прыродных умоваў знаходзяцца вялікія гарады з колькасьцю жыхароў больш за 100.000: Варкута, Інта, Нарыльск, Сургут, Ніжневартаўск. На сёньняшні дзень халодныя краі пакінула ўжо 40% насельніцтва. Дый за камуністамі людзі разглядалі Прыпаляр'е як часовы прыстанак, на якім можна назапасіць грошай і набыць дом дзе-небудзь у Краснадарскім краі. Урэшце атрымваецца, што за наша стагодзьдзе былая Расейская імпэрыя згубіла больш за палову (!)

*Працяг на старонцы 20*

# Дэмаграфічны цяжар імпэрыі

***Расейская гісторыя XX ст. з гледзішча дэмаграфіі — гэта гісторыя хваробы: самая нізкая ў Эўропе працягласьць жыцьця насельніцтва, самая высокая агульная і дзіцячая сьмяротнасьць, безумоўнае лідарства паводле ліку абортаў, надзвычай нізкая нараджальнасьць. Дэмаграфічная статыстыка неабвержна сьведчыць: як толькі Расея ўваходзіла ў паласу пазытыўнай палітычнай ці эканамічнай рэформы, на гэтае імгненна (і пазытыўна!) адгукаліся паказьнікі нараджальнасьці і працягласьці жыцьця. Але такіх пэрыядаў было ўсяго тры, і былі яны кароткія: нэп, гады хрушчоўскае "адлігі" і пачатковы этап перабудовы. Ужо зь сярэдзіны 70-х дэмаграфічныя тэндэнцыі набылі трывожны, а ў апошнія гады і абвальны характар.***

***У аснову артыкулу, які мы перадрукоўваем з тыднёвіка "Московские новости", пакладзеныя раней закрытыя зьвесткі Дзяржкамстату і вынікі досьледу лябараторыі НДІ Дзяржкамстату Расеі.***

У 1897 годзе ў Расейскай імпэрыі адбыўся перапіс насельніцтва. Сярэдняя працягласьць жыцьця расейскіх мужчынаў (27,5 года) сталася самай нізкай сярод адзінаццаці асноўных, паводле колькасьці, нацыянальнасьцяў: меней за татараў на 7 гадоў, беларусаў і ўкраінцаў — на 8-9 гадоў, габраяў — блізка дзевяці, башкіраў — блізка дзесяці, малдаванаў — на 13, прыбалтыйскіх народаў — блізка пятнаццаці гадоў. Лідарства паводле сьмяротнасьці немаўлятаў таксама за расейцамі: на тысячу народжаных — 425 сьмерцяў (фактычна, кожнае другое дзіця); у татараў — блізка 300, украінцаў і беларусаў — блізка 240, габраяў — 220, а самая нізкая — у латышоў — 186.

У 1989 годзе правялі перапіс насельніцтва і на ягонай падставе ацанілі працягласьць жыцьця пятнаццаці народаў, якія далі назвы саюзным рэспублікам. І расейцы сярод іх занялі... не, не апошняе — перадапошняе месца, саступіўшы пазыцыю апошняга толькі казахам. Лідарамі, як і стагодзьдзе таму, аказаліся прыбалты. За гэтае стагодзьдзе не зьмянілася нічога.

Сьмяротнасьць у расейцаў заўсёды была і застаецца істотна вышэйшаю, чым у беларусаў. У канцы XIX ст. расейцы жылі ў сярэднім на 8 гадоў меней за беларусаў. Пры гэтым амаль удвая вышэйшы быў паказьнік сьмяротнасьці немаўлятаў, павышаны быў і паказьнік сьмяротнасьці працаздольных узростаў.

У апошні пэрыяд існаваньня СССР — пэрыяд мірны і, здавалася, сацыяльна стабільны — сьмяротнасьць расейцаў заставалася па-ранейшаму значна больш высокай, чым сярод суседзяў-славянаў. Тая ж тэндэнцыя заўважная і ў 90-я гады.

Высновa: на працягу XX ст. пакаленьні расейскіх людзей — ці то ў складзе імпэрыі, ці то ў СССР, і незалежна ад наяўнасьці або адсутнасьці якіх-кольвек сацыяльных катастрофаў (вайны, голад, рэпрэсіі) — паміралі часьцей і жылі меней ня толькі ў параўнаньні з народамі заходняга сьвету, але і зь беларусамі.

Яшчэ з дарэвалюцыйнага часу дзяржаўны клопат пра захаваньне здароўя этнасу выліваўся ў адну форму — барацьбу з п'янствам. Так, расейцы пілі (і п'юць) шмат, а жывуць мала.

Вось зьвесткі за першую палову 1980-х гадоў. У Францыі — сусьветным лідары спажываньня алькаголю (блізка 14 літраў 100-працэнтовага алькаголю на душу насельніцтва) — ніхто не паміраў ад атручваньня ім, а ўзровень сьмяротнасьці быў там тады ў 1000 разоў ніжэйшы за расейскі, пры працягласьці жыцьця мужчынаў блізка 73-х гадоў (у Расеі пачатку 80-х — 62 гады). Расея, наадварот, была паводле ўзроўню спажываньня алькаголю сярод разьвітых краінаў сьвету толькі дзясятай (10,5 літра), аднак апошняю паводле працягласьці жыцьця мужчынаў. Болей чым у Расеі спажывалі алькаголю ня толькі ў Францыі, але і ў Швэйцарыі, Гішпаніі, Італіі, Партугаліі, ФРГ, Бэльгіі, нават у Аўстраліі і Новай Зэляндыі, і ва ўсіх гэтых краінах працягласьць жыцьця мужчынаў заставалася высокаю — 70 гадоў і болей.

*Працяг на старонцы 20*

**■ СТАТЫСТЫКА**

# Загадка прэзыдэнта

***26 сакавіка А.Лукашэнка ўпершыню даў інтэрвію беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода". Што прынясе нашым людзям саюз Беларусі й Расеі? — спыталася журналістка. Я ўпэўнены, што нашы людзі будуць жыць лепей, — адказаў прэзыдэнт.***

***Назаўтра Лукашэнка паўтарыў гэтую тэзу з трыбуны Вярхоўнага Савету.***

***Між тым, беларускую эканоміку й сёньня мала што аддзяляе ад расейскай, нашмат большай і больш хворай эканомікі. Якім чынам поўная інтэграцыя двух хворых прывядзе да лепшага жыцьця народу, —ведае толькі прэзыдэнт. Ведае, але нікому ня кажа.***

***Яшчэ пра гэта ведае статыстыка, якая сьведчыць пра адназначную тэндэнцыю да заняпаду эканомікі ў абедзьвюх краінах.***

### РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

Пададзеныя ніжэй зьвесткі афіцыйна яшчэ не публікаваліся. Яны датычаць паказьнікаў за два першыя месяцы гэтага году ў параўнаньні з адпаведным пэрыядам году 1995-га. Што зьмянілася?

Фізычны аб'ём валавага ўнутранага прадукту зьнізіўся на 8%. Пры гэтым вытворчасьць тавараў скарацілася на 11%, аб'ём паслугаў — на 6%, чыстыя падаткі на прадукты і імпарт — на 4%.

У прамысловасьці дададная вартасьць скарацілася на 8%, у сельскай гаспадарцы — на 9%, у будаўніцтве — на 31%.

Вытворчасьць прамысловай прадукцыі ў параўнальных коштах склала 93%. Зьніжэньне аб'ёмаў вытворчасьці адбылося на прадпрыемствах лёгкай прамысловасьці — на 26,7%, харчовай —на 9,7%, будматэрыялаў — на 17,8%, машынабудаваньня — на 15,3%.

На прадпрыемствах міністэрства прамысловасьці вытворчасьць прадукцыі склала 89%.

Вытворчасьць прадукцыі сельскае гаспадаркі ў гаспадарках усіх катэгорыяў зьнізілася на 6%.

Летась было ўнесена ў глебу арганічных угнаеньняў на 12% меней, чым у 1994-м, мінэральных — на 25%.

На 1 сакавіка ў сельгаспрадпрыемстваў было ў наяўнасьці 85% трактараў, 85% грузавікоў, 73% плугоў, 68% культыватараў, 74% сеялак. Зь іх спраўных 75-83%.

Валавае павелічэньне вагі жывёлы на гадоўлі зьменшыліся ў параўнаньні зь леташнім пэрыядам на 8%.

Вытворчасьць малака скарацілася на 18% у Менскай вобласьці, на 15% — у Гомельскай, на 13% — у Магілёўскай, на 11% — у Гарадзенскай, на 10% — у Віцебскай, на 6% — у Берасьцейскай.

Пагалоўе жывёлы скарацілася на 8%. Сярэдні надой малака — на 58 кг.

Аб'ём капітальных укладаньняў скараціўся на 23%, будаўніцтва — на 32%. Прадпрыемствамі і арганізацыямі ўсіх формаў уласнасьці здадзена ў эксплюатацыю толькі 62,2 тыс. $м^2$.

Розьнічны таваразварот скараціўся на 9%, аб'ём бытавых паслугаў — на 24%.

За 1995 год зачынілі 429 майстэрняў і атэлье, стала меней на 45 фота- і кіналябараторыяў, на 66 лазьняў, на 10 біблятэк.

Паводле стану на 1 лютага ў краіне было 2681 стратнае прадпрыемства альбо 30,8% ад агульнае колькасьці.

Прыбытак ад рэалізацыі прадукцыі скараціўся сёлета ў студзені да 5,5%.

Прадпрыемствы Беларусі вінаватыя краінам СНГ і Балтыі 9227,6 млрд. руб. А прадпрыемствам Беларусі гэтыя краіны вінаватыя толькі 3226,4 млрд.

Ва ўстановах службы занятасьці зарэгістравана 156,7 тыс. беспрацоўных альбо 3,3% ад усяго актыўнага насельніцтва. У лютым на 1 вакантную пасаду прэтэндавала 12 чалавек. У студзені на прадпрыемствах у вымушаным адпачынку без захаваньня альбо з частковым захаваньнем заробку знаходзіліся 202 тыс. чалавек альбо 17,3% ад колькасьці працоўных.

### РАСЕЙСКАЯ ФЭДЭРАЦЫЯ

Тут таксама працягваецца зьніжэньне прамысловай вытворчасьці. За верасень 1995 — студзень 1996 году тэндэнцыя да спаду адзначаная ва ўсіх галінах вытворчасьці. У кастрычніку 1995 г. аб'ём вытворчасьці прадукцыі скараціўся на 2%, у лістападзе —на 5%, у сьнежні — на 8%.

Цяперашні спад справакаваны павелічэньнем долі цяжкое прамысловасьці. Адбываецца хуткі спад вытворчасьці высокай ступені перапрацоўкі. Адначасова адзначаецца рост празьмерных запасаў гатовае прадукцыі, прычым ацэнкі якасьці гэтых запасаў пагаршаюцца ўжо пяты месяц.

Цэны харчовых тавараў вырасьлі за студзень на 4%, нехарчовых — на 2,7%, паслугаў насельніцтву — на 8,9%.

Праезд у прыгарадных цягніках падаражаў на 32,5%, у гарадзкім транспарце — на 18%.

Кошт набору зь 19-ці асноўных прадуктаў харчаваньня ў студзені павялічыўся на 4,7%. Садавіна-гародніна падаражала на 13,9%, яйкі на 6,8%, малако і малочныя прадукты на 4,2%, хлеб на 3,4%.

Тарыфы на электрычнасьць у студзені вырасьлі на 4,4%. З 1 лютага прадугледжана павелічэньне тарыфаў на электрычнасьць у сярэднім на 16% у параўнаньні зь леташнімі.

Штомесячная індэксацыя росту коштаў і тарыфаў на прыродны газ для вытворчасьці і грузавыя чыгуначныя перавозкі не перавышае 80% прыросту аптовых коштаў.

Захоўваецца тэндэнцыя да зьніжэньня банкаўскай актыўнасьці. Зварот таргоў у 1995 годзе складаў 3852 млн. даляраў, а у студзені 1996 толькі 571 млн. Адначасова скараціўся на 13% агульны аб'ём заявак на пакупку валюты.

Рэальныя грашовыя даходы насельніцтва ў студзені 1996 году зьменшыліся ў параўнаньні са сьнежнем 1995 на 22%. Даходы 10-ці працэнтаў заможнага насельніцтва за студзень у 13,5 раза перавышалі даходы астатняе часткі насельніцтва. Колькасьць насельніцтва, даходы якое ніжэйшыя за пражыцьцёвы мінімум, склала ў студзені 25%. Мінімальны памер аплаты працы (63,25 тыс. рас. руб) складае 10% ад сярэдняга заробку.

Колькасьць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных на канец студзеня склала 2,4 млн. чалавек. Агульная колькасьць беспрацоўных складае 6,1 млн. чалавек. 4,1% ад колькасьці працоўных знаходзіліся ў рэжыме няпоўнага працоўнага тыдня, 4,8% — у адпачынках з прымусу адміністрацыяў.

Рост беспрацоўя можа стаць абвальным, на што паўплывала адмова Узбэкістану і Казахстану падпісаць на 1996 год гандлёва-эканамічныя пагадненьні. Гэта пацягне пераарыентацыю рынкаў збыту рэсурсаў сыравіны гэтых дзяржаваў (хром, рэдказямельныя мэталы, бавоўна і г.д.) на сусьветны рынак. З мэтаю ўмацаваньня разьлікаў за выробленую, да прыкладу, ва Ўзбэкістане прадукцыю, павышэньня адказнасьці банкаў, прадпрыемстваў і арганізацыяў там прынята рашэньне пра адпраўку прадукцыі толькі пры папярэдняй аплаце. Гэтае рашэньне можа прывесьці да рэзкага скарачэньня паставак у Расею.

Аб наступствах такіх захадаў можна меркаваць на прыкладзе ўвозу бавоўны з краінаў СНГ: у 1994 — 515 тыс. тонаў, а ў 1995 ужо 220 тыс. тонаў.

*Паводле зьвестак "Вестника экономики РФ"*



*Інтэрвію пісьменьніка французскай газэце "Фігаро"*

# Новы раман Умбэрта Эка

— "Выспа ўчорашняга дня" — Ваш трэці раман, падзеі адбываюцца ў XVII ст. Апынуўшыся на караблі, галоўны герой зноў праходзіць шлях мысьляроў таго часу... Як узьнікла задума гэтай кнігі?

— Я заўважыў, што кожнага разу адштурхоўваюся ад нейкага вобразу. Не ад думкі, не ад сюжэту, а менавіта ад вобразу, які мяне заварожвае, не дае мне спакою. У выпадку зь "Імем ружы" гэта быў забіты ў бібліятэцы мніх. У "Ківачы Фуко" — сам ківач. З трэцім раманам выйшла так, што вобразу папярэднічала пачуцьцё. Я ўжо распавядаў усялякія гісторыі пра кнігі, пра культурныя каштоўнасьці, захаваныя ў абацтвах або музэях. А потым падумаў: ці здолею я апісаць прыроду?

Тады я стаў шукаць прыроду ў яе чыстай цноце... І знайшоў яе на пустэльнай высьпе. Але сытуацыя на няжылай высьпе ў раманах ужо апісаная, і мне прыйшла ў галаву думка разьмясьціць свайго героя на карабель, зь якога ён ня можа выбрацца.

— Што Вас прымусіла пагрузіць на карабель разам з героем веды, назапашаныя за цэлае стагодзьдзе?

— Аднаму на караблі чалавеку заняцца няма чым, хіба што мроіць. Значыць, у рамане пойдзе гутарка пра ўспаміны, пра незадаволеныя жаданьні... Асаблівае значэньне набывае адлегласьць, якая аддзяляе карабель ад выспы ад выспы. Той факт, што герой раману Рабэрта дэ Ля Грыў ня ўмее плаваць, толькі падкрэсьлівае немагчымасьць дасягнуць выспы —найвялікшае мары пацярпелага. Асноўны элемэнт раману быў у мяне ў руках.

— Мяркуючы з назвы — "Выспа ўчорашняга дня", час таксама адыгрывае пэўную ролю ў Вашым творы?

— Выспу і карабель у маім рамане падзяляе мэрыдыян, які праходзіць праз выспы Антыподаў у Ціхім акіяне. А значыць, згодна з прынятай намі сыстэмай вымярэньня часу, розьніца з абодвух бакоў мяжы складае 24 гадзіны. Гэтая ідэя дазволіла мне зьвязаць прастору і час.

Далей усё было зразумела: зазірнуць у атляс і пераканацца ў тым, што абраны мною мэрыдыян праходзіць недалёка ад выспаў Фіджы, — гэта зараз настройвае на рамантычны лад і навявае думкі пра Стывэнсана. Потым я даведаўся, што першы выспы Фіджы наведаў Тасман у 1643 годзе — значыць, падзеі ў рамане адбываюцца ў XVII ст. Хутка я высьветліў, што менавіта ў XVII ст. сьвет быў ахоплены спрэчкамі пра тое, як вызначаць геаграфічную даўжыню. Вось вам гісторыя, якая, на маю думку, цалкам вартая рамана.

— Можна падумаць, што ў працэсе стварэньня раману ўсе дэталі сюжэту зьвязваюцца міжсобку бяз Вашага ўдзелу, ледзь не выпадкова...

# ЗНАКІ ГЛЯБАЛЬНАГА

Алег Дзярновіч

"Імем ружы" Умбэрта Эка стварыў сабе сталую чытацкую аўдыторыю ва ўсім сьвеце. Заваяваны паўночнаамэрыканскі рынак, што вельмі рэдка здараецца з эўрапейскаю кнігаю. Адныя з найбольш адданых чытачоў Эка жывуць у Сярэдняй Эўропе. Разгадка асаблівага сярэдняэўрапейскага посьпеху, магчыма, у тым, што народы гэтага рэгіёну жылі, а беларусы ўсё яшчэ жывуць, у падвойнай сэміятычнай прасторы — акрамя знакаў уласнае культуры іх бралі ў аблогу (ці трымаюць у аблозе таксама цяпер) адмысловыя знакі таталітарызму. Вось чаму жыхару Сярэдняй Эўропы гэтак блізкія сэміятычныя жарты Эка.

Зафіксавана, што пад уплывам першага рамана Эка ў Эўропе павялічылася колькасьць студэнтаў, якія запісваліся на аддзяленьні сярэднявечнае гісторыі. Можна канстатаваць: кнігі Эка сваім выхадам ствараюць грамадзкую падзею. У 1993-1994 гадах сярод бэстсэлераў Польшчы знаходзіўся другі раман Эка "Ківач Фуко". У камэнтарах пісалася, што на новы шэдэўр аўтара з Балёньі чытачы зрэагавалі так прагна, як гэткае магло быць толькі за часамі рэальнага сацыялізму. "Эрудыцыя Ўмбэрта Эка дасягнула ў гэтай кніжцы такой канцэнтрацыі, што выпала дзюркамі для чытача" (Ex libris). Два сказы ўжо на першай старонцы (другі й трэці) налічваюць каля 70 слоў, што набліжаецца да рэкордаў Пруста.

У былым СССР з раманам "Ківач Фуко" зьвязаныя скандалы наконт аўтарскіх правоў. Правы на пераклад і публікацыю рамана (у часопісным варыянце) былі набытыя часопісам "Иностранная литература" ва ўладальніка правоў — мілянскае выдавецкае групы "Gruppo Editoriale Fabbri — Bompiani". Пераклад пачала рабіць Алена Касьцюкевіч, якая раней пераклала па-расейску "Імя ружы". Непазьбежныя ў часопісным варыянце скароты тэксту былі ўзгодненыя з аўтарам і ім дазволеныя. Публікацыя раману распачалася на старонках "ИЛ" у №7 за 1995 г.

Але Масква ўжо пачынае губляць інфармацыйнакультурную ініцыятыву. Улетку 1995 г. кіеўскае выдавецтва "ФІТА" выпусьціла "Ківача Фуко" па-расейску асобнаю кніжкаю накладам 10 тыс. асобнікаў — у ананімным перакладзе й з адвольнымі купюрамі. Менавіта з гэтым выданьнем рамана знаёмая менская публіка. У №8 за 1995 г. "Иностранной литературы" быў надрукаваны пратэст галоўнага рэдактара выдавецтва "Bompiani" Марыё Андрэоззэ, дзе паведамлялася пра перадачу ў італьянскі суд справы што да пірацкага выданьня "Ківача Фуко". Скандал ня мае шанцаў на пазытыўнае сканчэньне — правaўладальнік знаходзіцца ў Італіі, правакарыстальнік — у Расеі, пірацкае выдавецтва — ва Ўкраіне. Тут, у Беларусі, гэтая кніжка чытаецца.

Раман "Ківач Фуко" прысьвечаны нейкаму таямнічаму Пляну, які існуе ўжо ня першае тысячагодзьдзе. Мэтам рэалізацыі яго падпарадкаваныя сотні таемных таварыстваў ва ўсіх частках сьвету і ва ўсіх гістарычных эпохах. Гэты Плян уяўляе сабою гермэтычную веду, доступ да якой маюць нешматлікія абраныя, а сэнс яе імкнуцца спазнаць многія. Вось чаму ёсьць чалавечыя ахвяры. Але Плян гэты глябальны — вось чаму знакі яго прысутнічаюць паўсюль. Сутнасьць гермэтычнага мысьленьня ў тым, што кожная кропка ў прасторы зьяўляецца знакам. "Калі дапусьціць магчымасьць таго, што ў Сусьвеце існуе хаця б адна зыходная кропка, якая ня ёсьць знакам чагосьці іншага, мы адразу выходзім па-за межы гермэтычнага мысьленьня". Пошукі Пляну нарадзілі вялікую колькасьць гермэтычнае літаратуры. Тэкст Эка — гэта постмадэрністычны гіпэртэкст, які складаецца з цытатаў з шматлікае гермэтычнае літаратуры. Кніжку Эка можна разгарнуць на любой старонцы, цытатыфрагмэнты чытаюцца асобна, далейшае разьвіцьцё сюжэту падлягае самастойнай рэканструкцыі — у тым выпадку, калі ёсьць час час і вялікая колькасьць падобнае літаратуры.

І вось тут пачынаецца самае цікавае і трывіяльнае. Кніга Эка — гэта нарэзка іншых кніг. Умбэрта Эка як унівэрсытэцкі выкладчык мае да іх шырэйшы доступ і, дзякуючы прафэсійным абавязкам, мае магчымасьць іх прачытаць. А тэхналёгія пошуку зусім нескладаная. Я правёў экспэрымэнт — асобны столік у маім пакоі завалены газэтамі і новымі кнігамі, якія адкладаю, каб прачытаць ці прагледзець крыху пазьней. Празь нейкія паўгода ўся гэтая цэлюлёзная маса губляе сваю актуальнасьць і пачынае працаваць як архіў, да якога я раз-пораз зьвяртаюся. Вось і цяпер, трымаючы ў руцэ кнігу Эка, другою рукою можна наўздагад даставаць са стосаў пажоўклых газэтаў і запыленых кніжак усялякую друкаваную прадукцыю.

Першая нашая ахвяра — выпушчаная ў 1994 г. выдавецтвам "Унівэрсытэцкае" кніга Ігара Марозава "Таинственным путём Гермеса". Што там у анатацыі? Перакладу:"Гісторыя ведае нямала магічных сымбаляў — крыж, свастыка, мандала, сусьветная гара ды інш., якія рабілі адчувальны ўплыў на духоўную эвалюцыю чалавецтва. Аўтар выказвае гіпотэзу, згодна зь якой усе гэтыя розныя сымбалі маюць агульныя, цалкам рэальныя і канкрэтныя вытокі. Ведаючы іх, можна разгадаць найстаражытнейшыя сакрэты цывілізацыі... На гэты конт аўтарам знойдзена мноства найцікавейшых сьведчаньняў з архаічнай эпохі мітатворчасьці чалавека. Для шырокага кола чытачоў". І далей уся кніжка складаецца зь бясконцай нарэзкі выказваньняў, цытатаў з "Кібаліёну", "Агні Ёгі", "Апакаліпсу ад Яна", расейскіх былінаў, "Катхі Ўпанішады", "Дхамапады", "Рыгвэды", "Карану", "Кабалы", "Сэфэр-Этыра", "Кнігі памерлых", "Кнігі пераменаў", Аляксандра Салжаніцына, Алены Блавацкай, Мішэля Настрадамуса, Карляса Кастанэды, Карла Маркса, Максіма Багдановіча, Томаса Мана, Лаацзы, Гегеля, Карла Густава Юнга, Фрыдрыха Шлеермахера, Эдгара По, Сэрэна К'еркегора, Мартына Гайдэгера, Фрыдрыха Энгельса, Янкі Купалы, Ле Карбюзье, Ёгана Гётэ, Осіпа Мандэльштама, Плятона, Яна Залатавуснага, Дээсю Дзюсіна, Паўла Шпілеўскага, Зыгмунда Фройда, Крышны, Андрэя Вазьнясенскага, Уладзімера Даля, Андрэя Таркоўскага, Ані Бэзанту, Адына Штайнзальца, Мікалая Гогаля, Мікалая Бярдзяева, Ўільяма Шэкспіра, Аркадзія Гайдара, Мікалая Рэрыха, Арыстотэля, Гербэрта Ўэлса, Казімера Малевіча, Сяргея Ясеніна, Генрыха Агрыпы, Ашо, Уладзімера Манамаха, цара Саламона... Усё, хопіць. Гэтыя імёны, кнігі, тэксты зьбітыя й намешаныя ў эклектычнае цеста "Таямнічага шляху Гермэса". З кніжкі вынікае толькі адное — існуе нейкая тайна, якой падпарадкаваныя ўсе знакі цывілізацыі й гэтая кніжка.

Але назву, падобную на "Таямнічы шлях Гермэса" недзе я ўжо сустракаў. Ну так, у Эка, у эпізодзе, дзе ўладальнік аднаго з камэрцыйных выдавецтваў вырашыў заснаваць гермэтычную сэрыю "Выкрытая Ізыда": "Я зразумеў, што гэтыя людзі гатовыя праглынуць усё, што заўгодна, толькі б яно было, як вы кажаце, гермэтычным, толькі б там сьцьвярджалася супрацьлеглае таму, пра што яны не чыталі ў школьных падручніках. Я ня схільны да дабрадзейства, але ў нашыя такія змрочныя часы падараваць каму-небудзь веру, прыўзьняць завесу пазнаньня над рэчамі звышнатуральнымі... Выдавецтва "Гарамон" заўжды было верным сваёй навуковай місіі".

Зноў знаёмыя гермэтычныя сюжэты. Яшчэ зусім сьвежы часопіс, верхні ў стосе пэрыядычных выданьняў — "Весьці Акадэміі навук Беларусі", Сэрыя гуманітарных навук, №4 за 1995 год. Тут, нарэшце, надрукаваны праграмны матэрыял Уладзімера Агіевіча "Невядомы Скарына... ці неўсьвядомлены?" Нарэшце таму, што розныя аспэкты самай галоўнай у жыцьці аўтара ідэі выказваліся ім ужо неаднаразова, але цэльна не былі яшчэ сфармуляваныя. Уладзімер Агіевіч здаўна імкнецца давесьці, што Скарыну звалі не Францішкам, а Георгіем. Давесьці гэткае магчыма толькі праз "расшыфроўку загадкавых знакаў, нікім не прачытаных вось ужо блізка 500 гадоў, на гравюрным аўтапартрэце, створаным у традыцыях эзатэрызму..." "У трохкутніку, утвораным імі (манаграмаю "ТМЗ", выяваю "Пчалы" і часткі "сыгнэту" - Месяца, узятага бяз парнага сымбалю Сонца), Ска-

— Гэта ня так. Ёсьць унутраная пасьлядоўнасьць. Вы разьмяшчаеце чалавека на карабель, аднаго. Што адбываецца? Ён вар'яцее...

— І ператвараецца, аднак, у неверагодна разумнага вар'ята, які наноў вынаходзіць усю філязофію свайго часу!

— Але сам ён пры гэтым і не здагадваецца, што паўтарае двухсотгадовую гісторыю філязофіі. Ён з адчайнай хуткасьцю пераскоквае з адной тэорыі на іншую, пасьлядоўна абвяргаючы іх усе. У ахопленай вар'яцтвам галаве майго героя адбіваецца трызьненьне філязофіі.

— У кнізе сустракаюцца ідэі Ляйбніца, Паскаля, Дэкарта... Калі ўсе ідэі і спрэчкі вакол іх пазычаныя Вамі ў філёзафаў тае эпохі, то дзе ж хаваецца сам Умбэрта Эка? Уяўленьне пра пекла як пра сьвет, дзе Бог сьмяецца над пакутамі асуджаных, — гэта Ваша?..

— Падобную думку разьвівалі некаторыя прапаведнікі таго часу.

— А бачаньне іншага пекла, у якім "Бог не існуе, ёсьць толькі бязмэтная надзея"?

— Пекла ня больш чым надзея... Зрэшты, менавіта так я і думаю.

— Італьянская прэса пісала пра "рэлігійны крызыс Умбэрта Эка"...

— Сапраўды, адзін крытык-езуіт напісаў пра маю кнігу артыкул, у якім заняўся менавіта тым, чым павінен займацца езуіт: вывучаючы творчасьць аўтара, ён пастараўся знайсьці ў ёй імкненьне да трансцэндэнтнага, да Бога. Гэта нармальна, раней марксісты ўсяму знаходзілі вызначэньне з гледзішча марксізму. Так што сэнсацыя не адбылася. Але паколькі прэса мусіць прыдумляць новае, яна гэтым скарысталася... Людзі, якіх хвалюе мой меркаваны пераход у іншую веру, забываюцца, што філёзаф незалежна ад ідэалёгіі ці веравызнаньня ўсё жыцьцё разважае пра падобныя праблемы.

— Вернемся аднак да Вашага раману. Дзеяньне адбываецца ў XVII ст. Пры гэтым увесь час напрошваецца параўнаньне са стагодзьдзем XX. Гэта наўмысна?

— Паралель існуе ў тым сэнсе, што XVII ст. было сапраўды першым стагодзьдзем сучаснасьці.

Мы лічым, што сучасны чалавек склаўся ў эпоху Адраджэньня. Шмат у чым гэтае сьцьверджаньне справядлівае. Але ў сутнасьці, людзі Адраджэньня выпраўляліся на пошукі ўжо вядомых ісьцінаў. Тады як XVII ст. стала вёдушчым у поўным сэнсе гэтага слова: мысьлярам гэтага часу трэба было ўсьвядоміць тое, што ўпершыню адкрылася іхнаму позірку.

— Зараджалася экспэрымэнтальная навука...

— Так. У гэтае стагодзьдзе пачалі разважаць пра вынікі новага досьведу, што прымусіла выходзіць за межы папярэдняй традыцыі. З вынаходніцтвам тэлескопу і мікраскопу людзям давялося задумацца і пра бясконца вялікае, і пра бясконца малое. Яны даведаліся, што Зямля ня ёсьць цэнтрам сьветабудовы...

Зразумела, дарэчы, чаму менавіта тады паэты сталі пісаць у стылі барока: ім не хапала словаў, каб апісаць усе дзівосы навакольнага сьвету.

— У сваім рамане Вы пішаце пра першыя крокі экспэрымэнтальнай навукі адначасова зь пяшчотаю, і з іроніяй. Чаму?

— Іронія – гэта мой падыход да жыцьця. Ведаеце, людзі падзяляюцца на тых, хто любіць выстаўляць свае трагедыі напаказ, хоць іхнае жыцьцё насамрэч спакойнае і забясьпечанае, і на поўных іроніі насьмешнікаў, жыцьцё якіх сапраўды трагічнае.

Што тычыцца пяшчоты, то яна адлюстроўвае мой падыход да гісторыі філязофіі. Нават калі знойдзеныя мысьлярамі мінуўшчыны ідэі былі памылковыя, мяне ўсё адно захапляе іхнае памкненьне да пазнаньня і тая шчырасьць, якая стаіць за гэтым.



# ПЛЯНУ

рына, верны духу свайго часу, у адпаведнасьці з пазнанай гермэнэўтычнай традыцыяй "схаваў" у эзатэрычнай форме ад прафанаў і зашыфраваў для пасьвечаных інфармацыю пра сваё імя й "альфу" жыцьця зямнога". Паводле эзатэрычнага тлумачэньня барэт на галаве Скарыны падлягае трансфармацыі: "Парныя знакі на шчытах ля каленаў... уяўляюць асаблівую цікавасьць, бо акаляюць чалавека ў Храме, з вачэй якога зьнята павязка нявсданьня, якую звычайна прымаюць за барэт". "У іншых сымбалях біблсіст зашыфраваў астранамічны (астралягічны) і нумаралягічны эквівалент свайго хроснага імя й дату нараджэньня..."

Ага, вось тут мы выйшлі й на нумаралёгію. Што там у Эка? "Спадары, я прапаную вам абмерыць гэты шапік. Вы ўбачыце, што даўжыня лесьвічнай пляцоўкі роўная 149 сантымэтрам, гэта значыць, адной стомільярднай адлегласьці ад Зямлі да Сонца. Калі падзяліць вышыню задняе часткі на шырыню вакна, атрымаем 176:56=3,14. Вышыня пярэдняе часткі роўная 19 дэцымэтрам, гэта значыць колькасьці гадоў у грэцкім месяцовым календары. Сума вышыняў двух пярэдніх і двух задніх рэбраў дае 190x2+176x2=732, а гэта — дата перамогі пры Пуат'е..." Адкладзем часопіс.

Гэты стос газэтаў варта ўжо здаць у макулятуру. Але праэкспэрымэнтуем яшчэ раз. Нехта прэзэнтаваў мне сыгнальны нумар інфармацыйна-аналітычнага штотыднёвіка (здаецца, болей ён не выходзіў) "Albarosika"-дайджэст. Перадрук зь нейкага іншага выданьня артыкулу пад назваю "Шэкспір? Бэкан? Граф Ратленд?" Пэўна, будуць даводзіць, што Шэкспір — гэта не Шэкспір. Пішуць пра Фрэнсыса Бэкана: "Гэта быў чалавек ня проста адукаваны, але й уведзены ў тыя самыя эзатэрычныя таямніцы, якія апошнім часам усё часьцей знаходзяць у п'есах Шэкспіра..." Далей можна не чытаць. Зразумела — за Шэкспіра пісаў Бэкан. Ці граф Ратленд? Для стылёвай завершанасьці эпізоду зьвернемся зноў да Эка.

"FILENAME: дзіўны габінэт доктара Ды. Такім чынам, я многія гады правёў над складаньнем сюжэтаў, якія каралева ды ўся Англія прыпісвалі гэтаму бледнатвараму маладому чалавеку. If I have seen further it is by standing on ye sholders of a Dwarf. Мне было трыццаць гадоў, і ніхто мяне не пераканае, што гэта найлепшы пэрыяд майго жыцьця. — Ўільям, — сказаў я яму, — адпусьці валасы, каб закрыць вушы, гэта табе болей пасуе... Бледны Ўільям імгненна занатаваў гэтую фразу, подлы плягіятар".

У "Альбаросіцы" яшчэ нешта пра сувязі Бэкана з розэнкрайцарамі. Ну дык на тампліерскіх, масонскіх, мальтыйскіх... сюжэтах пабудаваная ўся кніжка Эка. Менавіта тампліерам аддадзена прывілея рэалізаваць таямнічы Плян. Тампліерам дапамагаюць іншыя "малодшыя" ордэны. Зусім нечаканыя паралелі ўзьнікаюць у нашым рэальным жыцьці. Варта выцягнуць газэту "Зьвязда" за нейкага там сьнежня, дзе друкуецца Ўказ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь №484 ад 30 лістапада 1995 г. пра ўсталяваньне дыпляматычных адносінаў паміж Рэспублікай Беларусь і Мальтыйскім ордэнам. Недзе ў тыя ж дні была прамоўлена чарговая паранаідальная прамова.

Але што тады сам Плян, якому падпарадкоўваюцца зусім розныя людзі — розных палітычных арыентацыяў і розных пасадаў? "Я круціўся сярод сатаністаў зь нязмушанасьцю псыхіятара, які прасякнуўся разуменьнем і любоўю да сваіх пацыентаў і знаходзіць прыемныя пахі, што разносяцца па векавым парку ягонага прыватнага шпіталю. Хутка такі псыхіятар пачынае пісаць пра псыхоз, а праз нейкі час з гэтых старонак паўстае псыхоз. Псыхіятар не ўсьведамляе, што пацыенты спакусілі яго, яму здаецца, што ён стаў артыстам. Так і нарадзілася думка пра Плян".

Здаецца хопіць. Болей я беларускай прэсы не чытаю. Дыягназ ставіць Эка. Ён жыве тут, у Беларусі ды чытае беларускія кніжкі. Эка з намі.

■

## Краіна

**Нябачаная дагэтуль бітва** зь лёдам, сьнегам ды вадою чакаецца сёлета. У інтэрвію "Радыёфакту" старшыня Камісіі па надзвычайных сытуацыях В.Даўгалёў сказаў, што да змаганьня з паводкаю гатовыя 449 экскаватараў, 405 бульдозэраў, 37 скрэпэраў, 245 пад'ёмных кранаў, болей за тысячу аўтамабіляў, 620 трактараў, плавальныя сродкі ды чаўны. Зь бюджэту на гэтую барацьбу ўжо выдаткавана 15 млрд. руб. Асабліва складаная будзе сытуацыя на Прыпяці. Нават тры гады таму, калі лёду ды сьнегу было нашмат меней, заторы давялося бамбіць з шрубалётаў. А сёлета таўшчыня лёду нашмат большая. Нагрувашчваньні крыгаў небясьпечныя для апораў мастоў. Сем шрубалётаў будуць ажыццяўляць паветраныя выведы і бамбаваць лёдавыя заторы, альбо засылаць на заданьні групы падрыўнікоў. На Палесьсі створана 38 такіх групаў.

**Нашчадкі Чынгісхана** ўсталявалі дыпляматычныя зносіны з нашай краінай. 21 сакавіка Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Манголіі спадар Гужавын Эрдэнэ перадаў даверчыя лісты прэзыдэнту Лукашэнку. Праўда, мангольскі дыплямат будзе працаваць у нас сумяшчальна, бо асноўная ягоная рэзыдэнцыя застаецца ў Кіеве. Дыпляматычныя зносіны зь Беларусяй усталявалі таксама Гана і Лівана. Але й іхныя паслы будуць працаваць з намі на адлегласьці — з Масквы.

**Эміграцыі і ўцекачам** быў прысьвечаны сэмінар для чыноўнікаў розных дзяржаўных структураў, які адбыўся ў Менску. Ініцыявала сэмінар управа Найвышэйшага камісара ў справах уцекачоў прадстаўніцтва ААН сумесна зь Міжнароднай арганізацыяй міграцыі. Раней такія сэмінары ладзіліся ў суседніх Эстоніі ды Літвы. Але менская сустрэча сабрала найбольшую колькасьць замежных удзельнікаў. Спэцыялісты з Хэльсінкаў, Жэнэвы, Масквы, Стакгольму, Дацкай рады ў справах уцекачоў знаёмілі работнікаў МЗС, КДБ, МУС, памежных войскаў, Міністэрства працы ды Міністэрства юстыцыі зь міжнародным гуманітарным правам і правамі ўцекачоў. Пасьля засваеньня тэорыі ўдзельнікі сэмінару здолеюць наведаць Галяндыю ды Польшчу дзеля азнаямленьня з працэдурамі наданьня статусаў уцекачоў, а таксама пабачыць, як ажыццяўляецца памежны кантроль.

**Дзень хворых на сухоты** адзначаўся ў Менску. У Навукова-дасьледным інстытуце фтызіятрыі адбылася канфэрэнцыя на тэму сухотаў. Сусьветная арганізацыя здароўя надае вялікую ўвагу барацьбе з гэтым захворваньнем. Нават у такіх разьвітых краінах як ЗША праблема выклікае немалую заклапочанасьць мэдыкаў. Нягледзячы на вялізны арсэнал антыбіётыкаў, сытуацыя робіцца ўсё горшай. Асноўная прычына ў мутацыі тубэркулёзнай мікрабактэрыі, якая выклікае сухоты, у бок неадчувальнасьці да лекаў. Цяпер у сьвеце штогод хвараюць на сухоты 8 млн. чалавек, зь якіх 3 млн. паміраюць. Прычым сьмяротнасьць павялічваецца. У Беларусі за апошнія 2-3 гады колькасьць захворваньняў на сухоты павялічылася (на 16%), асабліва ў радыяцыйных зонах — на Гомельшчыне ды Магілёўшчыне, а таксама сярод працаўнікоў сфэры грамадзкага харчаваньня, дзіцячых установаў ды малочных і мясных камбінатаў.

**Беларускія банкі** ня маюць прыбытку ўжо два месяцы. Пра гэта казалі на чарговым паседжаньні Асацыяцыі беларускіх банкіраў. Агульнаэканамічны крызыс не дазваляе ўкладзеным сродкам даваць прыбытак. Не ратуюць становішча нават валютныя апэрацыі. Чым менш у прадпрыемстваў і насельніцтва грошай, тым менш іх, натуральна, праходзіць і праз банкі. Спад вытворчасьці нехарчовых тавараў у краіне склаў за два апошнія месяцы болей за 20%, а харчовых — 10,4%. Насельніцтва ня верыць у стабільнасьць і захоўвае зьберажэньні ня ў банках, а дома.

**"Прэзыдэнт Беларусі** Лукашэнка не павінен думаць, што жорсткія захады, якія ён зрабіў супраць пяцідзесяці двух беларускіх прафсаюзных актывістаў, будуць забытыя", — заявіў міністар працы ФРГ сп. Блюм падчас сустрэчы дэлегацыі незалежных прафсаюзаў Беларусі ў Боне. Спадар Блюм і старшыня аб'яднаньня нямецкіх прафсаюзаў сп. Шультэ пабяцалі беларускім калегам далейшую падтрымку ў іхным канфлікце з урадам у Менску.

*Падрыхтаваў Ул.Бараніч*

## ■ ПОЛЬШЧА

***Традыцыйныя адносіны да шлюбу***

Паводле статыстыкі, польскае грамадзтва захоўвае вернасьць традыцыям: тры з чатырох палякаў лічаць, што мужчына і жанчына, вырашыўшы жыць разам, павінны ўзяць шлюб. Найболей кансэрватыўныя палякі з пачатковаю адукацыяй (81% настроеных традыцыйна), людзі, старэйшыя за 60 гадоў (89%) ды сяляне (ажно 93%).

Хто ж мае больш лібэральныя погляды наконт сумеснага жыцьця? Кожны трэці 20-гадовы паляк пагаджаецца з тым, што шлюб не абавязковы, каб жыць пад адным дахам. Гэтаксама лічыць кожны трэці інтэлігент. Год за годам штораз менш палякаў вырашаюць узяць шлюб.

Паводле зьвестак Цэнтральнай Статыстычнай Управы Польшчы, у 1989-95 гадах колькасьць жанатых мужчынаў павялічылася на 60 тысячаў, а замужніх жанчынаў на 75 тысячаў. ЦСУ не тлумачыць, з кім пабраліся 15 тысячаў астатніх жанчынаў.

Зь іншых дадзеных вынікае, што кожная дзясятая палячка — гэта дзяўчына зь дзіцем. Напэўна, частка зь іх жыве з мужчынамі, але бяз шлюбу.

Для параўнаньня: паводле францускага часопіса "Le Nouvel Observateur", 12 працэнтаў французаў ды францужанак жывуць сёньня разам бяз шлюбу. Гэта ўдвая болей, чым дзесяць гадоў таму. У Францыі кожнае чацьвертае дзіця нараджаецца па-за шлюбам. У 1975 годзе пазашлюбнае было толькі кожнае 30-тае дзіця.

***Масла супраць маргарыну***

Польскія вытворцы масла сур'ёзна занепакоеныя зьніжэньнем спажываньня гэтага прадукту. Спажываньне масла зьменшылася ў Польшчы з 8,5 кг на чалавека ў 1989 годзе да 3,5 кг летась. Да гэтага спрычынілася паміж іншым інтэнсіўная рэклямная кампанія, праведзеная вытворцамі маргарыну. Галоўным доказам на карысьць маргарыну цяпер зьяўляецца тое, што яго лягчэй размазваць.

Больш за 300 польскіх малочных заводаў плянуюць распачаць зь верасьня сумесную рэклямную кампанію масла. На гэтую мэту мае быць выдаткавана сама мала 3 мільёны злотых. Масьляры хочуць давесьці пакупнікам розьніцу паміж маслам і маргарынам, а таксама пераканаць, што маргарын утрымлівае хімічныя спалучэньні, якія могуць быць шкодныя для здароўя.

***Эўропа даганяе Афрыку***

Яшчэ два гады таму прэзэрватывы выпускаліся трох памераў: азіяцкага (найменшы), эўрапейскага і афрыканскага (найбольшы). Цяпер абавязковыя толькі два стандарты: азіяцкі і эўраафрыканскі.

Кандомы эўраафрыканскага памеру, што выабляе польская фірма Unimil маюць як найменей 18 см у даўжыню і ад 47 да 55 мм у дыямэтры. Заходнеэўрапейскія спажыўцы —немцы, гішпанцы, нарвэжцы — купляюць галоўным чынам прэзэрватывы меншага памеру. Аднак 40-45% прадукцыі Unimil'у ідзе на экспарт. "Эўропа зраўнялася з Афрыкай", — тлумачыць прэзыдэнт польскае фірмы.

Пачынаючы зь ліпеня 1997 году ў краінах Эўрапейскага Зьвязу ўводзяцца новыя абавязковыя нормы велічыні ды якасьці прэзэрватываў, вызначаныя згодна з рэкамэндацыямі Сусьветнае Арганізацыі Здароўя. Кандомы ня могуць быць меншыя за 17 см у даўжыню, а іх шырыня павінна складаць 53-55 мм. Акрамя гэтага, новыя патрабаваньні САЗ датычаць таксама парадку і спосабу дасьледаваньня якасьці прэзэрватываў, што прадаюцца ў Эўропе. Напрыклад, ужо цяпер дасьледуецца пранікальнасьць праз прэзэрватывы часьцінак арганічных фарбавальнікаў, што ў дзесяць разоў меншыя за вірус AIDS.

*Падрыхтаваў Пятро Рагойша*

## ■ УКРАІНА

Касьмічны крэдыт Сусьветнага Банку

На працягу трох гадоў Украіна атрымае тры мільярды даляраў крэдыту ад Сусьветнага Банку на рэформы ў энэргетыцы, сельскай гаспадарцы і перапрацоўчай прамысловасьці, а таксама на працяг праграмы прыватызацыі. Банк мяркуе таксама падтрымаць пабудову касьмічнага комплексу на Чорным моры. Пра гэта паведаміў у суботу ў Кіеве намесьнік старшыні Сусьветнага Банку Ёганэс Лін.

"Sea Launch" (альбо "Морскі старт") — гэта касьмічны комплекс, які мае базавацца на Чорным моры каля ўкраінскага ўзьбярэжжа. Кошт праекту складае 600 мільёнаў даляраў. Ён прадугледжвае запуск да 2010 году больш за 60 касьмічных ракетаў са спэцыяльнай пляцформы на вадзе. Першы запуск прымеркаваны на канец 1998 году.

У праекце возьмуць удзел найвялікшыя сусьветныя фірмы, што спэцыялізуюцца на касьмічных тэхналёгіях: амэрыканскі Боінг (40% удзелу), нарвэскі Кваернэр Розэнбэрг (20%), расейская Энэргія (25%), а таксама дзьве ўкраінскія фірмы — Паўдмаш і канструктарскае бюро Паўднёвае (разам каля 15%).

Украіна зацікаўленая ў рэалізацыі чарнаморскага касьмічнага праекту, таму што мае вялікія цяжкасьці з запускам сваіх спадарожнікаў. Заплянаваны на 1997 год старт спадарожніка Січ-2, напэўна, не адбудзецца, бо расейцы патрабуюць занадта вялікія грошы за гэтую паслугу. А на сёньня расейскі Плісецк — найбліжэйшы да Ўкраіны касмадром.

*Падрыхтаваў Пятро Рагойша*

## ■ ЛІТВА

Пра 25 сакавіка, у сувязі з Днём незалежнасьці Беларусі з усіх літоўскіх палітыкаў узгадаў толькі Вітаўтас Ландсбергіс, які на сваёй традыцыйнай прэс-канфэрэнцыі павіншаваў беларусаў Літвы з нацыянальным сьвятам. Прэзыдэнт Бразаўскас на прэс-канфэрэнцыі 25-га сакавіка сказаў, што ня варта панікаваць з нагоды магчымага аб'яднаньня Расеі й Беларусі, і што, на ягоную думку, усе размовы пра аб'яднаньне славянскіх дзяржаваў, могуць быць трывіяльным рэклямным выбрыкам у прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі. Пікетаваньне Пасольства РБ у Літве адбылося 25 сакавіка. У акцыі ўдзельнічалі 15 чалавек, грамадзянаў Беларусі, якія жывуць у Літве і грамадзянаў Літвы. Арганізатары пікету (дазволенага, дарэчы, уладамі Вільні) мелі на мэце зьвярнуць увагу літоўскай градзкасьці на сыстэматычнае парушэньне законнасьці ў Беларусі. Былі сабраныя подпісы пад лістом у Генэральную Пракуратуру РБ, у якім патрабуецца прыцягнуць да адказнасьці грамадзяніна А.Лукашэнку за шматразовае парушэньне Канстытуцыі краіны, а таксама асобаў, якія забаранілі ў Менску шэсьце па праспэкце Скарыны 24 сакавіка і тых, хто аддаў загад выкарыстоўваць супраць мірнай дэманстрацыі зброю.

Што тычыцца падзеяў 24 сакавіка ў Менску, то ў Вільні (дзе зброя супраць мірнага насельніцтва выкарыстоўвалася апошні раз ажно ў 1991 годзе і тое савецкімі войскамі) дзеяньні сталічных беларускіх уладаў мякка кажучы не зразумелі. Матэрыялы пра падзеі ў Менску большасьць літоўскіх газэтаў зьмясьціла на першых старонках.

*Падрыхтаваў Андранік Антанян*

## ■ ЛАТВІЯ

Прэзыдэнт Гунтыс Улманіс у апублікаваным адказе на зварот інтэлігенцыі паведаміў, што ў Латвіі сёньня жывуць людзі блізу 100 нацыянальнасьцяў.

"14 вядомых у грамадзтве людзей зьвярнуліся да мяне, —сказаў Улманіс. — Іхны зварот сьведчыць пра іх вялікую зацікаўленасьць у разьвіцьці культурных аўтаноміяў нацыянальных меншасьцяў. І я гэта прымаю".

Улманіс адзначыў, што падтрымка незалежнасьці Латвіі прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў была сапраўды неабходная і вельмі шмат значыла.

"Нас заклікаюць аднавіць парадак, які існаваў у міжваенны пэрыяд. Аднак Латвія да вайны і пасьля вайны — надта адрозныя дзяржавы. Да вайны гэта была нацыянальная дзяржава —гамагеннае грамадзтва з нацыянальнымі меншасьцямі, сёньня гэта нацыянальная дзяржава — са шматкультурнай супольнасьцю. Сёньня ў Латвіі практычна й фармальна, юрыдычна, нацыянальнымі меншасьцямі называюць тых нелатышоў, якія належаць да супольнасьці грамадзянаў. Але прагматычна й палітычна пашыраны пункт гледжаньня, што меншасьць — усе нелатышы, якія жывуць у Латвіі, за выключэньнем вайскоўцаў і кароткачасовых замежных гастарбайтараў".

Для тых, падкрэсьліў Улманіс, хто зьвяртаецца з просьбай атрымаць адукацыю на роднай мове, гэтае права рэглямэнтавана Законам аб адукацыі. Сёньня з 30 нацыянальных меншасьцяў у Латвіі маюць свае школы 12 (у тым ліку беларуская).

## ■ ЭСТОНІЯ

Імем Джахара Дудаева эстонцы хацелі назваць адну з вуліцаў Тарту. Аднак вышэйшыя інстанцыі, не жадаючы ўскладняць адносіны зь вялікім суседам, гэтага не прынялі. Тым ня менш, у найбольш сучасным гатэлі гораду былі заснаваныя нумары імя Джахара Дудаева, абстаўленыя аўтэнтычнай мэбляй былога савецкага генэрала. Эстонцы любяць Дудаева, бо ён у свой час сымпатызаваў нацыянальна-вызваленчаму руху ў Эстоніі.

*Падрыхтаваў Ул.Слабін*

## Здарэньні

**Добрая ахова** ў "Белпрамбудбанку". Служба бясьпекі гэтага банку пры падтрымцы міліцыі затрымала буйнога фінансавага махляра. Грамадзянін Харольскі здолеў атрымаць за 1993-1994 гады буйныя крэдыты ў некалькіх менскіх банках і пасьпяхова "пракручваў" іх за межамі Беларусі. Пакуль невядома, што прымусіла тутэйшага нашчадка Астапа Бэндэра вярнуцца на радзіму. Можа па новыя крэдыты? Па гэтай справе вядзецца сьледзтва.

**А вось на менскім аўтарынку** ахова кепская. Бо тут сярод белага дня абрабавалі чалавека. Чатыры расейскія злодзеі, узброеныя двума пісталетамі "ТТ", захапілі "Мэрсэдэс 230" і ўцяклі. Самае дзіўнае, што, калі верыць БЕЛТА, яраслаўскіх "гастралёраў" затрымалі ўсяго праз нейкіх 20 хвілінаў ажно ў Барысаўскім раёне. Машына тая была, мусіць, з рэактыўным рухавіком і належала Джэймсу Бонду. А то навошта дзеля яго трэба было з Яраслаўлю прыяжджаць? Радасна за нашых міліцыянтаў, у якіх, відаць, зьявіліся "Ўазікі" з рухавікамі ад "Фэрары".

**Кітайцы** зноў дэманструюць на практыцы славутую тактыку "малых хваляў", якімі калісьці атакавалі савецкія межы, а пазьней і віетнамскія. Цяпер кітайцы дасягнулі Беларусі. Як паведаміла БЕЛТА, ноччу паблізу вёскі Залужжа, што на Стаўбцоўшчыне, супрацоўнікамі дарожнай міліцыі была затрыманая чэская машына з паўпрычэпам. Пры даглядзе багажу было знойдзена 38 кітайцаў, жывых, але без дакумэнтаў. Усіх іх зьмясьцілі ў Менскім прыёмніку-разьмеркавальніку, дзе звычайна знаходзяць прытулак тутэйшыя бамжы.

**У Смаргоні** звычайныя жыхары абясшкодзілі ўзброенага бандзюгу. Тут да працаўніцы мясцовага малочнага заводу проста на вуліцы падскочыў невядомы мужчына і, выцягнуўшы абрэз, запатрабаваў грошы. Жанчына загаласіла "людцы ратуйце!", і на дапамогу ёй кінуліся некалькі мінакоў з вуліцы. Злодзей пачаў адстрэльвацца, забіў аднаго і цяжка параніў другога чалавека. Аднак перазарадзіцца не пасьпеў, бо яго схапілі два іншыя хлопцы.

**Ліквідацыяй** пажару ў Віцебску займаліся ажно дзесяць аддзяленьняў пажарнай аховы. Тут гарэла адно з вытворчых памяшканьняў акцыянэрнага таварыства "Віцебскдрэў". Апрацаваныя лякамі ды клеямі піламатэрыялы настолькі моцна гарэлі, што пажарнікам давялося нямала пазмагацца з агнём, каб ня даць яму перакінуцца на суседнія цэхі, асабліва, на сховішча зь лякамі ды фарбамі. На гэты раз абышлося без ахвяраў.

**Настаўнік фізкультуры** Ўладзімір Дайнак выратаваў жыцьцё чалавеку. Як паведамляе "Советская Белоруссия", ён праводзіў заняткі на лыжах, калі ўбачыў клубы дыму. Гарэў будынак, што стаяў побач з школай. Людзі, якія знаходзіліся блізка, спрабавалі дапамагчы тым, хто мог быць у будынку, але патрапіць у сярэдзіну не маглі з-за атрутнага дыму. Але настаўнік не разгубіўся. Ён нацягнуў вучэбны супрацьгаз ды кінуўся ў эпіцэнтар пажару. У адным з пакояў трэцяга паверху Дайнак выбіў дзьверы ды на плячох вынес адтуль непрытомнага чалавека. Гэты чалавек, як пазней высьветлілася, ацяпляў халоднае памяшканьне самаробным награвальнікам ды заснуў. Здарылася гэта ў вёсцы Мацэвічы Жабінкаўскага раёну.

*Падрыхтаваў Ул.Бараніч*

## PELENE-96

Напрыканцы мінулага тыдня ў Вільні адбылася трэцяя міжнародная выстава вырабаў касмэтыкі, парфумэрыі, касмэталёгіі. Калі вы забылі, хто такі Стасіс Красаўскас, нагадаю: гэта той мастак, чыя гравюра стала часткаю лягатыпу часопіса "Юность", зрэшты, ён быў ня менш вядомы і як аўтар сэрыі, прысьвечанай мінулай вайне і каханьню. Сёньня гравюра Красаўскаса ста-

№ 3/96
29 сакавіка — 4 красавіка

ШТОТЫДНЁВЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ ДАДАТАК ДА ГАЗЭТЫ НАША НІВА

Новае слова на рынку беларускае прэсы - штотыдзень 12 палосаў патрэбнае інфармацыі

# Інфарматар
## НАША НІВА

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЕ BELARUSIAN PUBLIC RELATIONS ASSOCIATION





Рэзкае зніжэньне попыту на працоўную сілу ў 4-м квартале 1995 г. нельга растлумачыць толькі сэзоннымі ваганьнямі. У значнай ступені гэта вынік пакуль што няспыннага спаду вытворчасьці. Амаль на траціну ў параўнаньні з канцом 1994 г. паменшыўся лік прадпрыемстваў, якія падалі зьвесткі пра патрэбу ў працоўнай сіле, што сьведчыць аб далейшым пагаршэньні становішча ў эканоміцы.

**Біржа працы** чытайце на стар. **8**

## РАДЫЁАНОНС

Праграма "Дыялёг" – гэта аналіз самых істотных палітычных падзеяў гэтага тыдня. У працэсе вольнай дыскусіі ўдзельнікі праграмы выказваюць розныя пункты гледжаньня, знаёмства зь якімі дапаможа вам скласьці вашу ўласную думку.

У штотыднёвай дыскусіі "Дыялёг" бяруць сталы ўдзел два вядомыя амэрыканскія палітычныя аглядальнікі, якія гавораць па-расейску – Дзьмітры Саймс і Леон Арон. Апрача таго, у якасьці госьцяў на "Дыялёг" запрашаюцца знаныя журналісты, вучоныя, палітыкі, дзяржаўныя дзеячы. Праграма перадаецца штачацьвер у асноўных вечаровых праграмах "Голасу Амэрыкі". Вядучы праграмы – Уладзімер Марцін.

стар. **11**



**АЎТАРЫНАК**

Малінаўка, каля Кальцавой дарогі, тэл. 27-37-13. Адчынены ў суботу, нядзелю (8.00—15.00). На гэтым рынку прадаюцца аўтамабілі і запчасткі. За 200 мэтраў адтуль – рынак спажывецкіх тавараў (працуе 8.00—17.00, выхадны панядзелак). Аўтобус 81 ад Цэнтральнага аўтавакзалу; выходзьце, калі ўбачыце вялікую колькасьць машынаў. Паркаваньне бясплатнае. У нашай рубрыцы **РЫНАК** мы падаем кошты на аўтамабілі і запчасткі якія прадаваліся на Цэнтральным аўтарынку ў сакавіку.

стар. **9**

У рубрыцы **Транспарт** – расклад руху аўтобусаў з вакзалаў Менск-Цэнтральны і Менск-Усходні, а таксама – пра абавязкі і правы праваднікоў

чытайце на старонцы **17**

## КАЛЯНДАР ВЫСТАВАЎ І КІРМАШОЎ ВА "ЭКСПАФОРУМ" У 1996 ГОДЗЕ.

*15—19 траўня.* **Консумэкспа'96*.** Вопратка, абутак, футравыя і скураныя вырабы. Тканіны. Галянтарэя. Бытавыя прыборы й абсталяваньне. Прадметы інтэр'еру. Сувэніры, каталёгі, часопісы модаў.

*28—31 траўня.* **Усё для дому.** 4-я Міжнародная выстава. Праектаваньне, будаўніцтва й рамонт жылых і службовых памяшканьняў. Сантэхніка й ацяпленьне. Прадметы аздабленьня інтэр'еру. Ахова й сыгналізацыя.

*28—31 траўня.* **Белхімія'96.** 4-я Міжнародная выстава. Абсталяваньне й тэхналёгіі нафтахімічнай вытворчасьці. Прадукты арганічнага сынтэзу. Аграхімія, фармацэя, касмэталёгія.

*2—5 ліпеня.* **Бістро'96.** 2-я Міжнародная выстава. Абсталяваньне й тэхналёгіі для рэстарацыяў, бараў, крамаў. Мінікомплексы перапрацоўкі для харчовай прамысловасьці. Прадукты харчаваньня хуткага прыгатаваньня.

*2—5 ліпеня.* **Піва.** 3-і Міжнародны кірмаш. Абсталяваньне й тэхналёгіі для вытворчасьці нацыянальных гатункаў піва. Піва: сьветлае, цёмнае, пшанічнае, безалькагольнае. Міжнародны конкурс-дэгустацыя.

*2—5 ліпеня.* **Віно й напоі.** 2-і Міжнародны кірмаш. Абсталяваньне й тэхналёгіі для вінаробнай і лікёра-гарэлкавае вытворчасьці. Нацыянальнае, маркавае, сувэнірнае віно й напоі. Міжнародныя конкурсы-дэгустацыі.

*26—31 жніўня.* **Дзіцячы сьвет.** 2-і Міжнародны гуртава-розьнічны кірмаш тавараў для дзяцей. Дзіцячая вопратка, абутак. Прадукты харчаваньня й напоі. Цацкі й разьвіцьцёвыя гульні. Канцылярскія прылады. Тавары для немаўлятаў.

*19—22 верасьня.* **Будпрагрэс'96.** 4-я Міжнародная выстава. Мэханізацыя працы ў будаўніцтве. Абсталяваньне для жыльля й будаўнічыя матэрыялы. Праекты катэджаў і дамкоў для лецішчаў.

*2—55 кастрычніка.* **Менскі кірмаш.** Восень'96. 13-ы Міжнародны ўнівэрсальны кірмаш. Тавары народнага спажываньня. Абсталяваньне й тэхналёгіі для вытворчасьці тавараў народнага спажываньня.

*12—15 лістапада.* **Сучасны офіс і банк.** 5-ы Міжнародны салён. Інфармацыйныя банкаўскія тэхналёгіі. Арганізацыйная й вылічальная тэхніка. Праграмнае забесьпячэньне. Сродкі сувязі й сыстэмы бясьпекі.

*27—30 лістапада.* **Белпрадукт*.** 3-я Міжнародная выстава. Прадукты харчаваньня, напоі.

*27—30 лістапада.* **Ласун*.** Міжнародная выстава. Кандытарскія вырабы, марозіва, кансэрваваныя прадукты, сочыва, джэмы, сокі, кампоты. Абсталяваньне й тэхналёгіі для вытворчасьці й пакаваньня.

*10—13 сьнежня.* **Security — Менск.** Міжнародная выстава сродкаў бясьпекі. Бясьпека асобы, уласнасьці, інфармацыі. Сыстэма пажарнай бясьпекі. Ахова аб'ектаў і мяжы. Мытны догляд. Сродкі выратаваньня.

*24—30 сьнежня.* **Навагодні менскі кірмаш*.** 3-і гандлёвы кірмаш сувэніраў і падарункаў. Перадсьвяточны распродаж сувэніраў і падарункаў. Дэманстрацыя мадэляў вопраткі й абутку. Канцэртныя праграмы.

*Арганізатары: ВА "ЭКСПАФОРУМ" і ВК "МІНСКЭКСПА"






## ХУТКА НА ЭКРАНЕ

**"Высокая мода"** (ЗША пры ўдзеле Францыі): Сафі Лярэн, Марчэлё Мастраяні, Джулія Робэртс, Тым Робінс, Кім Бэсынджэр, Анук Эмэ, Лілі Тэйлар у фільме Робэрта Олтмэна. Стужка прысьвячаецца сьвету моды, шыкоўнаму сьвету модных кутур'е. Рэжысэр сьмела прарываецца за кулісы фэшэнэбэльнага фасаду, дэманструючы зваротны бок сьвятаў прыгажосьці й вытанчанасьці. Багатыя на выдумку мадэльеры, прыгожыя манэкенкі, прэстыжныя фатографы, тэлевізійнікі й рэдактары модных часопісаў, славутасьці — усе зьбіраюцца вакол сэзоннага агляду новых мадэляў адзеньня ў Парыжы, імкнучыся ці выставіць сябе напаказ, ці дамагчыся чарговых посьпехаў у гэтай барацьбе за выжываньне. Робэрт Олтмэн запрасіў на галоўныя ролі Марчэлё Мастраяні й Сафі Лярэн, якія не сустракаліся на здымкавай пляцоўцы 16 гадоў, хаця да гэтага яны ўдзельнічалі ў стварэньні 10 фільмаў і сталі адной з самых славутых параў у гісторыі кіно.

**"Масква" й "Кастрычнік"**

## КОШТЫ НА РЭКЛЯМУ Ў ГАЗЭЦЕ "НАША НІВА" І ІНФАРМАЦЫЙНЫМ ДАДАТКУ "ІНФАРМАТАР"

| | "НАША НІВА" | "ІНФАРМАТАР" |
|---|---|---|
| Базавая стаўка ч/б | $0,5 см.кв. | $0,4 см.кв. |
| Замова ў рэклямным бюро | $0,5 см.кв. | $0,4 см.кв. |
| Замова праз тэлефон | $0,6 см.кв. | $0,5 см.кв. |
| Першая паласа | ч/б – $1 см.кв. Колер (ня меней за 100 см.кв.) – $2,5 см.кв. | ч/б – $0,9 см.кв. |
| Радковая рэкляма на паласе "Біржа працы" | | 5.000 руб. (зьмяшчаецца запар у двух нумарах) |
| Колер | ня меней за 50 см.кв. – $1 | ня меней 20 см.кв. – $1,5 см.кв. |
| TV–праграма | | ч/б – $1 см.кв. колер – $1,5 см.кв. (ня меней за 50 см.кв.) |

Замовіць рэкляму можна праз тэлефон 36–76–75 з 10.00 да 20.00 штодня, ці на адрасе: вул.Пуліхава, 29, кв. 61 да 18.00. Пры гэтых коштах ня ўлічваецца выраб арыгінал–макету.

**Падпісны кошт 12.000 на месяц**
**36.000 на квартал**

*** Прадугледжаны скідкі на колькасьць выхадаў і плошчу рэклямных аб'яваў**

Падпіска на газэту

**"НАША НІВА"**

праз пошту і "САЮЗДРУК"
**індэкс 63125**.

**Падпіска празь недзяржаўную сетку дастаўкі**
тэлефон 29-22-10 (Цыбульскі Леанід).

## Сьвет

**Брытанская ялавічына** таксама небясьпечная. Прынамсі так палічылі ў некаторых краінах Заходняе Эўропы. Тут зьявіліся паведамленьні пра сувязь жывёльнае хваробы "шалёная карова" з рэдкім захворваньнем мазгоў чалавека. На запатрабаваньне Нямеччыны Эўрапейскі Зьвяз забараніў завоз на кантынэнт брытанскае жывёлы ды ялавічыны. Кампанія МакДональдс таксама вырашыла не карыстацца брытанскай ялавічынай. У Эўропе замест брытанскага будзе выкарыстоўвацца галяндзкае ды гішпанскае мяса. На саміх брытанскіх астравах абмяркоўваюць пытаньне пра поўнае ці частковае зьнішчэньне пагалоўя буйной рагатай жывёлы.

**Пакончыць зь нелегальнай іміграцыяй** вырашылі амэрыканскія заканадаўцы. Палата прадстаўнікоў кангрэсу ЗША прыняла законапраект аб спыненьні незаконнай іміграцыі. Цяпер нелегальным імігрантам цяжэй будзе атрымліваць дапамогу ды ўладкоўвацца на працу. Падвоіцца колькасьць памежных пастоў і патрулёў, будуць пабудаваныя агароджы ўздоўж мяжы з Мэксыкай. Дзеці незаконных імігрантаў будуць пазбаўленыя магчымасьці наведваць грамадзкія школы... Як сказаў рэспубліканец з Тэхасу Лямар Сміт, прысьпеў час вызначыць новыя прыярытэты. Іміграцыя — гэта ня права, а прывілея. Палова нелегальных імігрантаў прыехалі ў краіну зь легальнымі турыстычнымі візамі, ды так і засталіся там, — падкрэсьліў Л.Сміт. Для набыцьця законапраектам статусу закону, неабходна, каб яго ўхвалілі сэнат ды прэзыдэнт.

**Галяндыя ня выдала візы** на ўезд у краіну Ўладзіміру Жырыноўскаму. Лідар ЛДПР хацеў паехаць у Гаагу, каб выступіць абаронцам сэрбскіх афіцэраў на працэсе, арганізаваным ваенным трыбуналам ААН па ваенных злачынствах. Паводле словаў пасла Галяндыі, урад яго краіны здолее разгледзець хадайніцтва Жырыноўскага наконт візы толькі пасьля таго, як атрымае адпаведную просьбу з боку міжнароднага трыбуналу ў Гаазе.

**Японскі падарожнік** Кэніці Хары вырашыў пераплысьці Ціхі Акіян на чаўне, зробленым з 22 тысячаў перапрацаваных алюміневых піўных бляшанак. Экалягічны човен будзе прыводзіцца ў дзеяньне электрарухавіком, энэргію якому будзе забясьпечваць сонечная батарэя. За чатыры месяцы 57-гадовы падарожнік зьбіраецца праплысьці 16 тысячаў кілямэтраў і вярнуцца назад у Японію. Гэта першая ў сьвеце спроба пераадолець акіян на выключна сонечнай энэргіі.

**Шахматны чэмпіянат сьвету** паводле вэрсіі FIDE паміж расейцам А.Карпавым і амэрыканцам Г.Камскім адбудзецца ў Багдадзе. Так вырашыў прэзыдэнт FIDE, ён жа прэзыдэнт Калмыкіі, Кірсан Ілюмжынаў. Гэтае рашэньне выклікала немалы скандал. Бо, як вядома, ЗША забараняюць сваім грамадзянам езьдзіць у Ірак. Непаўналетняму Гату Камскаму пагражае ў гэтым выпадку зьняволеньне ды штраф. Сам Г.Камскі ды ягоны бацька Рустэм — мусульмане, і таму ня маюць нічога супраць Багдаду. Але цяжка сказаць ці знойдуць яны мужнасьць процістаяць амэрыканскім уладам і паехаць у Ірак. Калі Ілюмжынаў не дамовіцца з уладамі ЗША, матч, напэўна, давядзецца перанесьці. Прэзыдэнт FIDE выбраў Багдад з-за самага высокага прызавога фонду. Садам Хусэйн прапанаваў 2 мільёны даляраў ЗША і вельмі добрую арганізацыю чэмпіянату.

*Падрыхтаваў Ул.Бараніч*

ла плякатам да выставы, якая ўвасобіла апафэоз буржуазных памкненьняў невялікае краіны. У праграму выставы ўваходзіў агляд "міс" з розных куткоў Літвы за мінулыя тры гады, конкурс цырульнікаў з розных краінаў, дэманстрацыя магчымасьцяў касмэтолягаў, у тым ліку і касмэтаплястыкаў (да прыкладу, можна было тутсама зьмяніць форму сваіх вуснаў з гарантыяй на пяць гадоў).

Гэтая падзея ня мае нічога агульнага з забаўляльнымі відовішчамі. Мэта арганізатараў і ўдзельнікаў — высьветліць попыт, пашырыць рынак, атрымаць прыбытак. Тут, у павільёне LITEXPO, адбываліся кантакты, закупляўся оптам тавар. Натуральна, шырокая публіка сюды не прыцягвалася: кошты квіткоў на розныя імпрэзы ў межах выставы дасягалі $100. Тут дыфэлявалі прадаўцы і пакупнікі, палітыкі (мэр Відунас, спадар Гражуліс, напрыклад, старшыня камісіі па справах нацыянальных меншасьцяў, добра вядомы сярод віленчукоў-беларусаў, міністры, партыйцы...), натоўп журналістаў і... жанчыны.

На выставе гэтым разам прадстаўляліся ўсе галоўныя фірмы Эўропы і Амэрыкі. Натуральна, буйнейшымі нацыянальнымі павільёнамі былі францускі ды італьянскі. Дыяпазон вытворцаў выглядаў дэмакратычна: ад знаёмых беларускам Pollena і Florena да Charl's Jordash і Dali. Натуральна, што ў такім спаборніцтве дызайну і водараў, найлепшаю прынадаю сталіся нацыянальныя сымбалі: нельга было не зьвярнуць увагу на швэйцарскія каровіны званочкі, альбо на макет вежы Эйфэля, якая нібы маяк пазначала беспамылковы кірунак, ці адвесьці вочы ад зорна-паласатай прасьціны, што пакрыла амэрыканскі сэктар.

Былі і беларусы. Яны ціха ўтыркнулі сваю палічку паміж Pupa і Wella з прадукцыяй Bellta, нават не пазначыўшы адрас вытворцаў. Пра берасьцейскі ды менскі дызайн лепей не казаць.

Нічога радыкальна новага на выставе не было. З апошняга "піску" — Lapidus, Xerios GIVENCHY ды Safari, тое што ўжо ёсьць на рынку Літвы 2-3 гады. Што да GIORGIO Beverly Hills, Armani ды Bourjoi, дык іх ужо проста раздавалі, каб хоць неяк падагрэць цікавасьць да гэтых аддзелаў. Зрэшты, набор L'Arte de Gucci мне надаўся.

Pelene па-літоўску — Папялушка. Сярод люксусу аздобы ды экзатычных трункаў, сярод музыкі й кветак, ёю, Папялушачкай, была беларуская бытавая хімія, прадукцыю якой ліхаманкава скуплялі... эўрапейскія вытворцы. Многія саматужныя рэцэпты нашых "сьпяцоў" апынуліся сапраўдным адкрыцьцём як паводле інгрыдыентаў, так і паводле тэрапэўтычных якасьцяў. Але гэта засталося па-за кадрам.

А ў кадры — літоўскія "міс" з архідэямі, з горамі Christian Dior ды Chanel, зь літоўскімі палітыкамі, шчасьлівымі за сваю краіну.

*Сяргей Харэўскі*



*Міхайла Горынь:*

# "Вы робіце небясьпечны крок..."

***22-23 сакавіка ў Менску праходзіў III кангрэс Лігі Дэмакратычных партыяў Міжмор'я (Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёну). Сярод удзельнікаў форуму быў і вядомы палітычны дзяяч Украіны Міхайла Горынь. Пан Горынь адказаў на пытаньні карэспандэнта "НН".***



**— Пан Горынь, многія памятаюць Вас, як аднаго з галоўных герояў "варожых" радыёгаласоў эпохі 1950-80-х. Тагачасныя палымяныя камуністы на-ўрад ці што-небудзь пра Вас чулі, а калі й чулі на партсходах, то як пра нядабранадзейную асобу, украінскага нацыяналіста, спадкаемцу Пэтлюры і Бандэры і г.д. Новае пакаленьне ў нашай краіне таксама мае пра Вас цьмянае ўяўленьне з-за разрэджанай інфармацыйнай прасторы паміж Беларусяй і Ўкраінай...**

— Я не належу да нэафітаў, у якіх грамадзянская і нацыянальная самасьвядомасьць абудзіліся пасьля раскрыцьця культу асобы Сталіна. Я нарадзіўся ў сям'і, што мела нацыянальную сьвядомасьць. Таму яшчэ ў дзіцячая гады я добра ведаў, хто мае сябры, а хто ворагі. З малаком маці я ўсмактаў мэту — пабудову незалежнай украінскай дзяржавы. У выніку ў 1953 годзе я быў выключаны з унівэрсытэту. І толькі дзякуючы новаму рэктару — патрыёту акадэміку Лазарэнку, быў адноўлены ў ліку студэнтаў.

Наагул у 50-я гады ва Ўкраіне быў жорсткі тэрор супраць актывістаў нацыянальнага адраджэньня, аднак у 60-х яно зноў пайшло на пад'ём. Мы стварылі шэраг таварыстваў, якія прапагандавалі мадэрнісцкую ўкраінскую паэзію, публіцыстыку, накіраваныя супраць русіфікацыі і каляніяльнай палітыкі СССР. У 1965 годзе я быў арыштаваны, атрымаў 6 гадоў зьняволеньня. Калі выйшаў з турмы і 10 год быў на волі, то на працягу гэтага часу падтрымліваў так званы Хельсынскі рух. Аднак у 1981-м быў зноў арыштаваны і атрымаў 15 гадоў як асабліва небяспечны дзяржаўны злачынца-рэцыдывіст. Праўда, ужо ў 1987-м, у гарбачоўскую амністыю палітычных вязьняў, датэрмінова выйшаў з уральскіх лягераў. Вярнуўшыся ва Ўкраіну, я, зразумела, зноў узяўся за сваю "любімую" справу — улучыўся ў барацьбу за незалежнасьць.

**— Пастаўленая шмат гадоў назад мэта дасягнута — сёньня Ўкраіна самастойная дзяржава. Аднак Вам чамусьці душэўна няўтульна. Выступаючы на III кангрэсе дэмпартыяў Міжмор'я, Вы з трывогай казалі пра небясьпеку вяртаньня ў рэгіён расейскага імпэрыялізму.**

— Я быў ініцыятарам правядзеньня I кангрэсу Лігі дэмакратычных партыяў краінаў Міжмор'я, які адбыўся ў 1994 годзе ў Кіеве. Ліга мае на мэце аб'яднаць дзяржавы Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёну ў палітычны блёк, каб разам супрацьдзейнічаць імпэрскай палітыцы Масквы. Ад гэтага залежыць захаваньне іх незалежнасьці. Калі б сёньня існаваў такі блёк з Украіны, Польшчы, Беларусі, Літвы, Латвіі і Эстоніі, то яму, як калетыўнай структуры, варта было б прасіцца пад крыло НАТО.

**— Але сёньня казаць пра стварэньне такой супольнасьці не даводзіцца. Прамаскоўская палітыка А.Лукашэнкі адтэрміноўвае такую пэрспэктыву. Дарэчы, як Вы ўспрынялі яго змову з Барысам Ельцыным аб стварэньні беларуска-расейскага саюзу?**

— Дзеяньні беларускага прэзыдэнта — гэта трагічная палітычная памылка. Беларусь добраахвотна нацягвае на сябе ярмо рабства. Такі выпадак цяжка прыгадаць у гісторыі. Я мяркую, што ваш народ павінен апамятацца і выправіць фатальную памылку, якую хоча зрабіць пан Лукашэнка.

**— У якіх адносінах з Масквою знаходзіцца цяпер Ваша дзяржава?**

— У плянах расейскага імпэрыялізму Ўкраіна займае асаблівае месца. У Крамлі добра разумеюць, што бяз Кіева імпэрыя будзе непаўнавартаю. Без Украіны кантакты імпэрыі з Эўропаю немагчымыя. Расея ў гэтым выпадку ператвараецца ў эўраазіяцкую дзяржаву. Таму націск на нашу краіну надзвычай моцны. Масква няспынна шле да нас сваіх місіянэраў дзеля прапаганды ў нашым народзе расейскай нацыянальнай ідэі. Фактычна не спыняюцца ваяжы высокіх чыноўнікаў паўночнага суседа ў Крым. Ва ўкраінскіх сілавых структурах па-ранейшаму шмат прарасейскіх элемэнтаў, што вельмі небяспечна для нашай незалежнасьці. Таму кадравая палітыка, найперш ва ўкраінскім войску, — найбольш актуальная для нас задача.

**— Ці будзе мець наступствы для Ўкраіны меркаваная палітычная інтэграцыя Беларусі і Расеі?**

— Лічу, што такі саюз з агульнымі наддзяржаўнымі органамі, межамі, войскам, фінансамі і г.д. — гэта вельмі небясьпечны крок для нашай краіны. Крок, які прывядзе да ўзмацненьня й пашырэньня імпэрыі за кошт Беларусі, безумоўна, створыць дадатковыя цяжкасьці для Ўкраіны...

**— А ці ня лічыце Вы, што прарыў расейскага імпэрыялізму на беларускім фронце адбываецца і з прычыны яўна кволых беларуска-украінскіх палітычных адносінаў?**

— Сапраўды, гэта відавочная памылка палітычных лідараў нашых краінаў. Прадстаўнікі дэмакратычных колаў Украіны ня раз нагадвалі сваім уладам, што ня можа быць незалежнай Украіны безь незалежнай Беларусі. Узьнікнуць вялікія складанасьці для нашай дзяржаўнасьці, калі Менск увойдзе ў варожую структуру. Недаацэнка важнасьці шчыльных беларуска-ўкраінскіх палітычных адносінаў — дадатковы казыр для Масквы.

Гутарыў Міхал Стэльмак

# РАСПАД РАСЕІ НЕПАЗЬБЕЖНЫ

Працяг са старонкі 3

сваёй эфэктыўнай тэрыторыі. Карысная плошча Расеі зьменшылася да ўзроўню XVI ст.

МІТ НУМАР ТРЫ. Расейцы думаюць, што Расея адна з самых прыродна багатых краінаў. Ці так гэта?

За апошнія 200 гадоў энэргаспажываньне цывілізацыі ўзрасло ў пяць разоў. Гэта прывяло да павелічэньня сярэдняй працягласьці жыцьця ўдвая, удвая скараціла працоўны тыдзень і дазволіла забясьпечыць прадуктамі харчаваньня ўзрослае ў шэсьць разоў насельніцтва плянэты.

Але адно толькі спажываньне энэргіі на душу грамадзяніна яшчэ ні пра што ня сьведчыць. Вось прыклад: Румынія, хоць і спажывае энэргіі на душу насельніцтва на 20% больш за Гішпанію, але паводле валавага нацыянальнага прадукту адстае ад яе ў 7 разоў! Чаму такая несправядлівасьць? Таму што румынам не пашанцавала з краінай: халодна ў іх, і львіная доля здабытай энэргіі "ўпустую" пераводзіцца ў цяпло. У паўночных краінах яшчэ большая частка энэргіі ідзе на абагрэў, інакш кажучы, на барацьбу з стыхіяй, а не на паляпшэньне жыцьця людзей. З гэтага гледзішча цёплы клімат — такі самы дадатковы эканамічны рэсурс краіны, як нафта і газ. І расейскае багацьце нетраў нафтай, вугалем ды іншымі выкапнямі вельмі няўдала кампэнсуецца яе надзвычайным кліматычным жабрацтвам: у нас самая халодная краіна ў сьвеце.

У Канадзе, дзе сярэднегадавая тэмпэратура амаль такая самая нізкая, як у нас (Расея -5,5°С; Канада -5,1°С), найвялікшы паўночны больш менш буйны горад, Эдмантан, разьмешчаны на шыраце Арла.

НАША ДАВЕДКА

Для разьліку найбольш зручна выражаць энэргаспажываньне праз тоны ўмоўнага паліва на душу насельніцтва ў год (ТУП/год). У найбольш разьвітых краінах гэты паказьнік роўны 10-14 ТУП/год, у бяднейшых ледзьве дасягае 0,3-0,4 ТУП/год. Тона ўмоўнага паліва (ТУП) – мера энэргіі, роўная 7 млрд. калёрыяў альбо 29,3 млрд. джоўляў. Яна прыблізна адпавядае колькасьці цяпла, вылучанага пры спальваньні адной тоны высокаякаснага вугалю ці 0,7 тоны нафты.

## КАНЕЦ ГІСТОРЫІ

НАША ДАВЕДКА

Лябараторыя глябальных праблемаў на працягу 8 гадоў займаецца праблемамі ўзаемадзеяньня цывілізацыі і прыроды з энэргетычнага гледзішча. Мэтодыкі, распрацаваныя расейскімі навукоўцамі, унікальныя, яны дазваляюць праўдзіва і дакладна аналізаваць і прагназаваць сусьветныя працэсы, у тым ліку распад і ўтварэньне дзяржаваў з пункту гледжаньня энэргаінфармацыйнага абмену. Менавіта гэтая частка досьледу прыцягвае ўвагу айчыннай і замежнай навуковай грамадзкасьці, хоць палітыкі, як заўсёды, не сьпяшаюцца пачуць голас навукі. Працы лябараторыі дзякуючы сваёй арыгінальнасьці фінансуюцца, апроч РАН і Міннавукі, Камітэтам вышэйшае школы, Фондам імя Аляксандра фон Гумбальта (Нямеччына), Горна-прамысловай кампаніяй (Расея) і цэлым шэрагам іншых арганізацыяў.

Навукоўцы адкрылі закон энэргетычнае неэфэктыўнасьці вялікае дзяржавы. Высьветлілася, што патрэба ў энэргіі павялічваецца ня толькі там, дзе халаднейшы клімат, але й там, дзе большыя землі. Максымальна дапушчальная плошча дзяржавы, пасьля перавышэньня якой існаваньне краіны робіцца энэргетычна невыгодным, роўная прыблізна 500 тыс. км².




Менавіта закон неэфэктыўнасьці вялікае дзяржавы тлумачыць той загадкавы да апошняга часу факт, чаму адзін японец выдаткуе 4,5 ТУП/год, а амэрыканец ажно цэлыя 11! І гэта пры аднолькавай сярэднегадавой тэмпэратуры ў абедзьвюх краінах (+11,2°С) і прыкладна роўным узроўні жыцьця.

Быць вялікім нявыгадна: занадта доўга ідзе сыгнал. Затуханьне вялікае, скажэньні, збоі. Пакуль з маленькага мозгу дыназаўра дойдзе каманда да задніх ног, дробны зьвер ужо пасьпее паабедаць. Адсюль — нізкая эфэктыўнасьць энэргаінфармацыйнага абмену ў краіне. Бо ўвесь зварот тавараў, рэсурсаў, усе кіраўнічыя рашэньні, усе таварна-транспартныя плыні можна зьвесьці да энэргаінфармацыйнай мадэлі гэтаксама, як любую масу ў фізыцы можна выразіць не праз кіляграмы, а праз адзінкі энэргіі — джоўлі. Атрымоўваецца, што чым большая краіна, тым больш "затарможаная".

Вось хоць бы транспартны перарасход. Самі ж амэрыканцы, якія любяць статыстыку, падлічылі свае транспартныя страты: на адзінку валавага нацыянальнага прадукту яны выдаткоўваюць "чамусьці" на 20% энэргіі болей за эўрапейцаў. У тым ліку й на транспартаваньне самой энэргіі. Пакуль яе даставіш з аднаго краю ў іншы, пятую частку якраз і страціш.

Ёсьць і іншыя чыньнікі стратаў. Большая краіна складаецца з розных прыродна-кліматычных рэгіёнаў. Рознасьць прыродных умоваў прыводзіць да таго, што для падтрымкі прыблізна аднолькавага ўзроўню жыцьця розных рэгіёнаў фэдэральнаму ўраду даводзіцца займацца "камуністычным пераразьмеркаваньнем" — браць у прыродна багатых і аддаваць "прыродным маргіналам".

Нарэшце, культурна-псыхалягічная розьніца рэгіёнаў. Складана аднымі законамі й правіламі, пісанымі ў фэдэральным цэнтры, кіраваць пэрыфэрыяй, дзе культурна-прыроднае асяродзьдзе можа кардынальна адрозьнівацца. Гэткая неадпаведнасьць цэнтральных установак мясцовым умовам і звычаям — таксама чыньнік неэфэктыўнасьці, г.зн. чысты перарасход энэргіі. Інакш кажучы, нават у невялікай Нямеччыне эфэктыўнасьць кіраваньня рознымі землямі з аднаго фэдэральнага цэнтру неідэальная. Але тут неідэальнасьць неістотна малая і кампэнсуецца іншымі чыньнікамі. Зь іншага боку, для настолькі розных паводле ладу рэгіёнаў, як, напрыклад, у СССР Прыбалтыка і Сярэдняя Азія, гэтая неэфэктыўнасьць была недаравальна вялікая.

Сыстэма энэргетычна нявыгадная мусіць разваліцца. Гэта ўжо чыстая фізыка. СССР трэснуў і разваліўся, зрэляксаваўшы невыносную ўнутраную напругу. І на гэтым працэс распаду, натуральна, ня спыніцца. Энэргетыка будзе расколваць краіну да эфэктыўных плошчаў максымум у 500 тыс. км². Развал шматнацыянальных тэрытарыяльных утварэньняў — аб'ектыўны працэс, які аб'ектыўна прасочваецца ў XX ст. Напачатку стагодзьдзя на зямлі налічваліся 52 незалежныя дзяржавы, у сярэдзіне стагодзьдзя — 82, цяпер іх болей за 200.

Ці можна нешта зрабіць, выратаваць імпэрыю? Не, нельга. Можна адцягнуць распад, перадаўшы максымум самакіраваньня на месцы (што цяпер і адбываецца). Але гэта толькі зьнізіць напружаньне і ня вырашыць праблему кардынальна. Мясцовыя ўлады выступаюць як звычайныя рэтрансьлятары ў ланцугу перадачы інфармацыйнага сыгналу. Але рэтрансьлятар таксама можа ўносіць памылкі. Сутнасьць у тым, каб не перадаваць кіраўнічую інфармацыю зьверху, а выпрацоўваць яе на месцы. Наколькі ўжо ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі юрыдычна самастойныя штаты, а ўсё адно страты "на імпэрыю" вельмі вялікія. Хай нашым дамарошчаным патрыётам будзе суцехаю тое, што і ЗША, і Канада, і Кітай, і Аўстралія, і ўсе іншыя вялікія дзяржаўныя ўтварэньні разваляцца. Сэпаратызм — не глухая амбіцыйнасьць асобных мясцовых лідараў, а выраз праз сацыяльную псыхалёгію энэргафізычных мэханізмаў гісторыі.

Географы вылучаюць на тэрыторыі Расеі 36 так званых прыродных краінаў — рэгіёнаў з аднатыповымі прыроднымі ўмовамі. Прыкладна па межах гэтых прыродных краінаў і будзе адбывацца падзел. Эканамічны лёс гэтых краінаў складзецца болей удала, чым лёс унітарнай Расеі.

## СЮРПРЫЗ

Пасьля нас хоць патоп. Лепей, калі пры нас. Расея, паводле аптымальнасьці энэргаспажываньня, знаходзіцца на ўзроўні Калюмбіі, Конга, Іраку. Натуральна, маецца на ўвазе не абсалютнае спажываньне энэргіі адной асобна ўзятаю расейскаю душою. З гэтым якраз усё як мае быць. Расеец спажывае 8 ТУП/год, што ўтрая болей за сярэдні ўзровень у сьвеце. Але для дасягненьня аптымальнага ўзроўню спажываньня энэргіі, г.зн. каб жыць гэтаксама, як усе нармальныя эўрапейскія людзі, пры нашых маразах і адлегласьцях расейцам трэба спажываць 19 ТУП/год. (У Нямеччыне аптымальнае спажываньне — 6,1; для крыху цяплейшае Францыі — 5,1 ТУП/год.) Нікуды не падзенесься.

Разьлікі, зробленыя ў лябараторыі глябальных праблемаў, паказалі, што праз 50 гадоў сярэднегадавая тэмпэратура ў Расеі вырасьце на 2,1°С. Гэта дазволіць зьнізіць аптымальнае спажываньне энэргіі на 10% — да 12,8 ТУП/год. Плюс энэргаашчадныя тэхналёгіі, плюс, дасьць Бог, магчымы хуткі распад краіны да эфэктыўных плошчаў. Можа быць, усё гэта й дазволіць скараціць тэрмін вываду Расеі на арбіту інфармацыйнае цывілізацыі гадоў праз 30.

# Дэмаграфічны цяжар імпэрыі

Працяг са старонкі 3

Вось зьвесткі за 1980 год, дзе першая калёнка – продаж алькаголю ў літрах на чалавека ў год, а другая – працягласьць жыцьця мужчынаў:

| | | |
|---|---|---|
| Эстонія | 11,8 | 64,2 |
| Латвія | 11,3 | 63,7 |
| Літва | 11,3 | 65,4 |
| Расея | 10,5 | 61,4 |
| Беларусь | 10,2 | 66,0 |
| Украіна | 6,8 | 64,6 |

Працягласьць жыцьця мужчынаў вышэйшая ў Беларусі, дзе паводле афіцыйных зьвестак алькаголю спажываюць меней, чым у Расеі.

Ужо з XVI ст. пачынаецца паступовая міграцыя расейцаў за межы сваёй этнічнай радзімы. Тым ці іншым чынам было ўсталяванае валадарства над вялізнымі тэрыторыямі, і туды, на "новыя землі", рушылі, а затым і надоўга аселі тысячы расейцаў. Але далучаныя тэрыторыі часта прынцыпова розьніліся паводле прыродна-кліматычных умоваў ад "хатніх". А каб этнас адаптаваўся да іх, патрэбныя пакаленьні і пакаленьні. Куды йшлі асноўныя міграцыйныя плыні? Не на захад альбо паўночны захад, у Беларусь і Прыбалтыку, дзе заўсёды была моцная канкурэнцыя з боку мясцовых народаў, а пераважна на поўнач, поўдзень і, галоўнае, на ўсход.

Але вось што цікава: пакаленьні расейцаў, аселых у Беларусі, пачыналі жыць болей за сваіх суайчыньнікаў з Расеі. Гэта значыць, узровень сьмяротнасьці расейцаў, якія жылі ў Беларусі, быў значна ніжэйшы, чым сярод расейцаў у самой Расеі. Тое самае і цяпер. Напрыклад, паводле зьвестак за 1989 год, сьмяротнасьць немаўлятаў сярод расейцаў у Беларусі амаль у два разы ніжэйшая, чым у расейцаў у Расеі. Чым гэта патлумачыць?

Па-першае, паказьнікі сьмяротнасьці расейцаў у Расеі рэзка павялічваюцца за кошт цяжкіх прыродна-кліматычных умоваў, бытавой неўладкаванасьці, нізкага ўзроўню аховы здароўя.

Па-другое, за апошнія 200 гадоў расейцы больш актыўна за іншыя народы імпэрыі (потым – саюзу) уцягваліся ў прамысловую вытворчасьць, а гэта непазьбежна вяло да павышэньня сьмяротнасьці працаздольных узростаў. Доля расейцаў у Расеі, занятых у галінах зь цяжкімі і шкоднымі ўмовамі, была большаю, чым доля іншых народаў Расеі і СССР. Тое самае характэрна і для Расеі цяперашняй. Нарэшце, прыярытэт ва ўрбанізацыі відавочна таксама за расейцамі і за Расеяй. Найбольшая доля гарадзкога насельніцтва сярод расейцаў: сёньня амаль 80% расейцаў жывуць у гарадах.

Такім чынам, адказваючы на пытаньне, чаму расейцы жывуць меней і паміраюць часьцей за іншых, можна сьцьвярджаць: прычына ў тым, што на працягу стагодзьдзяў расейскі народ сваім жыцьцём расплочваецца як за імпэрскія амбіцыі свае эліты, так і за пагардлівае стаўленьне эліты да здароўя нацыі.

# Маскоўскі бэстсэлер пра беларускія землі

***М.М.Кром. Меж Русью и Литвой: западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV — первой трети XV в. — Сер.: Справочники по русской истории. Вып. 4. — "Археографический центр", 1995. — 304 с., карта. ISBN 5-86169-013-8***




Як хто думае, — што знаходзіцца паміж Русьсю й Літвой? Вокладка кнігі М.Крома, што выйшла летась у Маскве, стварае ўражаньне, што гэта – горад Падуя ў Італіі. Насамрэч гэта кніга пра землі, за якія змагаліся Маскоўская дзяржава і Вялікае Княства Літоўскае ў канцы XV – пачатку XVI ст. Тэрміну "Беларусь" аўтар імкнецца пазьбягаць, як, дарэчы, і разгляду разнастайных этнічных праблемаў. Для абазначэньня зоны маскоўска-літоўскіх войнаў ён лічыць за лепшае карыстацца тэрмінамі "Заходняя Русь", "заходнярускія землі". Вось гэтая зона, як вынікае з назвы кнігі, і разьмяшчаецца паміж Літвой і Русьсю, дакладней, паміж дзьвюма дзяржавамі са сталіцамі ў Вільні і Маскве. Тэрмін "Беларусь" на той час быў рэдкі й неакрэслены, а дакладнасьць і выразнасьць – крэда аўтара, падмурак, на якім трымаецца ягоная кніга. Заходняя Русь для М.Крома – гэта Смаленск, Бранск, Ноўгарад-Северскі, Чарнігаў, Мсьціслаў, Крычаў, Полацак, Віцебск, Менск, Пінск; Берасьце й Горадня ўжо не разглядаюцца.

Кніга пачынаецца з агляду напісанага гісторыкамі пра войны з Масквой і пераліку гістарычных крыніцаў. Тут жа аўтар сфармуляваў сутнасьць праблемы – на чым баку знаходзілася мясцовае насельніцтва ў часе войнаў? Мясцовыя князі: Навасільскія, Адоеўскія, Варатынскія, Белеўскія, Масальскія, Тарускія, Мезецкія, Абаленскія, – усе яны паходзілі ад забітага ў Ардзе ў 1246 г. чарнігаўскага князя Міхала Ўсеваладавіча. Няўхільнае памнажэньне ягоных нашчадкаў прывяло да драбненьня былой Чарнігаўскай зямлі на такія малыя княствы, што асобным князям зямлі ўжо проста не ставала. У XV ст. палітычнае становішча гэтых дробных уладароў у верхавіне Акі было няўстойлівае: яны то слугавалі маскоўскім князям, то пераходзілі на бок ВКЛ, потым назад. Сярод іх вылучаліся Навасельскія – найзаможная княская сям'я, якая лічылася васальнай ад вялікіх князёў ВКЛ. Менавіта яны ў 1470-90-х гадах пачалі пераходзіць са сваімі землякамі на бок Масквы. М.Крон паказаў прычыны гэтага: імкненьне віленскага двара пазбавіць іх выключнага, удзельнага становішча ў ВКЛ і нздольнасьць абараніць іхныя дзедзіны ад маскоўскіх васалаў і крымскіх татараў пры адначасовай дэманстрацыйнай палітыцы маскоўскага гаспадара Івана III, скіраванай на ахову ўдзельных парадкаў у верхавіне Акі. Зь пераходу Навасельскіх усе й пачалося.

Падчас вайны 1492-94 гадоў на бок Масквы перайшлі апошнія прадстаўнікі гэтай сям'і, пад ваенным ціскам за імі крочылі Вяземскія, Масальскіх проста захапілі ў палон. 1500-м годам М.Кром абмяжоўвае першы этап ваенных адносінаў Масквы й Вільні, калі праваслаўныя князі ВКЛ паступова пераходзілі на маскоўскую службу. Актыўнымі саюзьнікамі Масквы пры гэтым былі толькі Навасельскія, якія меркавалі застацца ўдзельнымі гаспадарамі "пад далоняй" Івана III. Астатнія князі, паводле М.Крома, – "ахвяры наступальнай палітыкі Масквы і ейных васалаў".

На другім этапе, пасля 1500 г., сытуацыя кардынальна зьмянілася. Нешматлікія ўдзельныя князі ВКЛ, якія засталіся, але былі залежныя як ад гаспадара Вялікага Княства, гэтак і ад уласных падданых (гарадзкіх абшчынаў), дэманстравалі поўную ляяльнасьць да віленскага двара. Астатняя маса княжатаў ВКЛ таксама была задаволеная сваім месцам у сацыяльна-палітычнай сыстэме дзяржавы і не жадала пераходзіць на бок маскоўскіх гаспадароў. Усё гэта выявілася ў наступных войнах паміж дзьвюма дзяржавамі: 1500-1503 і 1507-1508 г. Галоўны аргумэнт Масквы ў гэтых канфліктах – моцнае войска. Тэрытарыяльныя захопы таго часу – вынік гэтага аргумэнту. Апошняя вайна была абцяжарана для ВКЛ бунтам князёў Глінскіх у 1508 г. Гэтая падзея даўно прыцягвала ўвагу дасьледнікаў.

За апошнія сто гадоў яна атрымала шмат зпітэтаў: "вялікае брузаваньне народнае масы", "агульнаруская справа", "паўстаньне народных масаў", зь іншага боку – "авантура", "бунт". М.Кром яшчэ раз разгледзеў крыніцы, склад удзельнікаў руху, іхныя мэты і дзейнасьць. Прысуд яго досыць суровы: бальшыня ўдзельнікаў паўстаньня – гэта клян Глінскіх або зьвязаныя зь імі сваяцтвам ці службай асобы. Бальшыня князёў ВКЛ да руху паставілася абыякава або нават варожа. Гэта быў менавіта бунт, які ўзьнялі Глінскія празь нежаданьне скарыцца са стратай высокага становішча пры двары, і які абапіраўся найперш на іх сваякоў і слуг.

М.Кром разгледзеў таксама пазыцыю гарадзкога насельніцтва ў збройных канфліктах і прыйшоў да высновы, што яна залежала ад велічыні і юрыдычнага стану гораду. Ускраінныя дробныя гарады ВКЛ ня мелі самастойнай пазыцыі, нават не імкнуліся неяк паўплываць на свой лёс і былі аб'ектам захопу адвечных ворагаў – вялікіх князёў маскоўскага і літоўскага. Гэтыя мястэчкі фактычна не ўваходзілі ў палітычную сыстэму ВКЛ, і Маскве было няцяжка іх адарваць. Затое буйныя прыватныя і сярэднія гаспадарскія гарады займалі акрэсьленую пазыцыю: яны даражылі сваёй "старыной", і як маглі абаранялі яе і ад намесьнікаў, і ад маскоўскай навалы.

Аднак у гэтых гарадах назіралася вялікая разнастайнасьць у паводзінах: невялікім маскоўскім палкам яны рабілі адпор, але перад буйным войскам капітулявалі, каб потым зноў вярнуцца пад віленскае падданства. Такім чынам, іх пазыцыя моцна залежала ад ваенна-палітычных абставінаў, ад суадносінаў сілаў на пэўны момант. Нарэшце, буйныя прывілеяваныя гарадзкія абшчыны (Полацак, Віцебск, Менск, Смаленск) найбольш актыўна выяўлялі сябе ва ўнутры- і зьнешнепалітычнай сфэры. Яны займалі ў час войнаў з Масквою бескампрамісную пазыцыю, вытрымлівалі працяглыя аблогі, супраціўляліся да апошняй магчымасьці. Усё гэта, на думку М.Крома, дае ключ да тлумачэньня ўражлівай розьніцы ў характары войнаў да і пасьля 1500 г.: на першым этапе Масква ваявала з удзельнымі й невялікімі вялікакняскімі гарадамі, далучэньне якіх з падтрымкай мясцовых князёў давалася ей без асаблівых намаганьняў. А вось на другім этапе маскоўскім войскам супрацьстаялі значна буйнейшыя й трывала "ўкаранёныя" ў ВКЛ гарады, якія гэтак настойліва супраціўляліся, што далучэньне новых гарадоў да Маскоўскай дзяржавы спачатку рэзка запаволілася, а пасьля захопу Смаленску ў 1514 г. надоўга спынілася.

Далей М.Кром дасьледуе паводзіны асобных гарадзкіх слаёў і робіць выснову: сымпатыяў да Масквы, да маскоўскіх парадкаў не ўдаецца адшукаць ні ў адным слаі заходнярускага гораду. Над тлумачэньнем гэтага думалі ўжо сучасьнікі. Нямецкі эканаміст і гісторык XVI ст. Ё.Дэцы ў зьвязку з падзеямі 1514 г. зазначыў, што русінаў, якія жывуць у ВКЛ і маюць агульную з маскавітамі рэлігію, нішто ня ўтрымлівае ад здрады, акрамя тыраніі маскоўскага князя, і таго, што ніхто ў Маскові не валодае багацьцем інакш, як з дазволу князя.

Нарэшце, М.Кром разгледзеў маскоўскую палітыку на навадалучаных землях. Крыніцы сьведчаць, што апорай Масквы тут служыла не мясцовае насельніцтва, а разьмешчаныя ў памежных гарадах палкі на чале з намесьнікамі й ваяводамі, ды "дзеці баярскія" з паветаў Маскоўскай дзяржавы, якія атрымалі тут шматлікія землі. Разам з прымусовым "вывадам" мясцовых жыхароў углыб Масковіі гэта эфэктыўна забясьпечвала прысутнасьць Масквы на вялізных абшарах Заходняй Русі.

Дасьледаваньне М.Крома заканчваецца вялікім сьпісам бранскіх і смаленскіх баярскіх родаў (35 і 186 адпаведна), дзе прасочаны іхны лёс пасьля войнаў першай трацiны XVI ст., – ці на маскоўскай, ці на літоўскай службе яны апынуліся.

Увогуле кніга ўражвае дакладнасьцю і віртуознасьцю дасьледніцкае працы. Літаральна кожны пададзены факт падтрыманы спасылкаю на крыніцы. Не выпадае верыць або ня верыць аўтару. Можна прымаць або не прымаць кнігу цалкам. Але ўсё ж аўтар дасьледаваў толькі адзін бок жыцьця – матэрыяльны. М.Кром сам адзначыў, што даўно насьпела патрэба ў дасьледаваньні рэлігійнай, духоўнай гісторыі ВКЛ XV-XVI ст. Можна лічыць даказаным, што целам "русіны" ВКЛ былі зь Вільняй, – а з кім яны былі душою? Вышэйзгаданы Дэцы згадваў пра рэлігійную сувязь "русінаў" з Масквою. Але зноў жа: ці была гэтая рэлігійная сувязь духоўнай?

Няпростыя пытаньні абуджае кніга М.Крома, дасьледніка з катэгорыі так званых маладых гісторыкаў. Застаецца дадаць, што, паводле апытаньня маскоўскага "Книжного обозрения", кніга М.Крома ўваходзіла ў дзясятку бэстсэлераў 1995 году. У Менску такога посьпеху яна ня мае праз малы наклад і цяжкасьці з дастаўкай. Але хто хоча ведаць праўду, той прачытае.

Валеры Пазьнякоў

# Барока за незалежнасьць

***Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce baroku pod redakcją Jerzego Kowalczyka. — Warszawa: Instytut Kultury, — 1995.***




Выдатна выглядае якасна надрукаваны, багата ўпрыгожаны арыгінальнымі ілюстрацыямі том, дзе сабраныя тэксты рэфэратаў з навуковае канфэрэнцыі, што адбылася – на жаль, для чытача даволі даўно – у 1989 годзе ў Варшаве. Польскія, беларускія, латыскія й літоўскія дасьледнікі ўпершыню тады былі сабраныя разам руплівасьцю Інстытуту Мастацтва Польскай Акадэміі Навук, каб выкласьці свае думкі, распавесьці пра пошукі, напрацоўкі ў тэме, што дагэтуль была калі й не забароненаю ў межах СССР, дык практычна існавала тут на маргінэсе афіцыйнае навукі.

Падазронасьць да барока, як культурнае плыні тыпова заходняй, каталіцкай і арыстакратычнай, падмацоўвалася старой традыцыяй супрацьстаўляць "рэакцыйнае" барока больш "прагрэсіўным" рэнэсансу ці клясыцызму. Адметна, што ў тым жа СССР менавіта расейскія навукоўцы пачыналі цікавіцца барока нашага сярэдне-ўсходнеэўрапейскага рэгіёну, "праз галаву" і часам ігнаруючы шматлікія культурныя зьявы Украіны, Літвы, а асабліва Беларусі. Працы Марозава, Тананаевай, Сафронавай і іншых пра літаратурнае барока, сармацкія прымітывы, школьны тэатар, – на свой час (маючы на ўвазе менавіта апошнія савецкія дваццаць-трыццаць гадоў) былі дастаткова грунтоўныя і ў нечым наватарскія. Але, звычайна, хоць і даказвалася права на "сваё" барока, мяжа паміж "сваім" – расейскім, і "чужым" – "польскім", "заходнім", заставалася выразнай і трывалай. На гэтай мяжы нам у лепшым выпадку заставалася роля "мэдыятара", пераносьніка культурных "бацылаў", а звычайна нашая культура проста распадалася на "руска-праваслаўную" і "польска-каталіцкую".

У "славянскім барока" месца для "барока ВКЛ" і для беларускага барока практычна не знаходзілася. Тым болей, "што дазволена Юпітэру", тое было не да чыну нашым дасьледнікам, і, калі ў Маскве, Піцеры і нават у Тарту разважалі над канцэпцыямі, у нас пераважна зьбіралі матэрыял. І часам незвычайны, унікальны. Як ні наракалі на нябожчыка Чантурыю, але ягоная першая "История архитектуры Белоруссии" адкрывала нам самім нейкі новы сусьвет. Адкрыцьцём былі й альбомы Высоцкай, і старабеларуская графіка Шматава, і многае іншае, ня кажучы ўжо пра сабраныя музэйныя калекцыі. Але "свайго голасу" ў гэтага матэрыялу было мала – часьцей апісаньні, даволі прыблізныя атрыбуцыі і адвечная барацьба за "ўзьяднаньне"... Бадай што толькі ў 80-я сам панятак "Вялікае Княства Літоўскае" стаўся, нарэшце, дастаткова звычайным, бяз прысмаку варожасьці ці крамолы. І тым большую значнасьць набывае гэты збор, і тым болей шкада, што зьявіўся ён на шэсьць год пазьней, чым быў складзены, і, напэўна, застанецца для нас замежным рарытэтам.

А гэтак шырокага – і геаграфічна, і канцэптуальна —асьвятленьня тэмы барока ў ВКЛ не стае й цяпер, ды многія праблемы й пытаньні, закранутыя ў рэфэратах, дагэтуль ня менш актуальныя. З найцікавейшых можна назваць хаця б тыпалёгію касьцёльных фасадаў раньняга барока (M.Brykowska), традыцыі і ўплывы ў бараковай архітэктуры (В.Марозаў), гісторыю пабудовы й аздабленьня Гарадзенскага езуіцкага касьцёлу (J.Paszenda, В.Гаршкавоз і А.Ярашэвіч), радзівілаўскую тэматыку (J.Kowalzcyk, K. Mikocka-Rachubowa), італьянскія мастакі ў Вільні (M.Karpowicz)...

Зразумела, чаму тэма ВКЛ ня надта шанавалася ў СССР, – у межах імпэрыі бадзяўся прывід буйное дзяржавы, да якой так ці йнакш мелі дачыненьне народы практычна ўсіх рэспублік на захад ад Масквы. Калі б за Вялікім Княствам Літоўскім давялося прызнаць ня толькі палітычную, але й культурную адметнасьць, культуратворчую моц і арганічнасьць ейных культурных мадэляў, гэта, вядома, было б небясьпечна, бо сьведчыла пра магчымасьць для рэгіёну іншых агульных традыцыяў і іншай супольнасьці. Але...

Нябачным, але адчувальным ценем навісаюць над кнігай пытаньні: чым было ВКЛ? Каму належыць тая ці іншая доля культурнай і гістарычнай спадчыны Княства? Ці мае хто пэўнае "права першародзтва" у падзеле гэтае ВКЛаўскае спадчыны? Хоць ў многіх артыкулах гэтыя пытаньні быццам бы не закранутыя, амаль ва ўсіх адчуваецца пэўная патэнцыяльная прэтэнзія, унутрана ўжо падмацаваная моўнымі, гістарычнымі, этнанімічнымі, геаграфічнымі ды шмат якімі яшчэ аргумэнтамі. Тады, у 89-м, гэтая праблема здавалася яшчэ даволі акадэмічнай, і можна было спадзявацца, што яна вырашыцца на навуковых сымпозіях і публічных абмеркаваньнях. Мінулі гады, і трэба прызнаць, што да адказу на пытаньне "Чым і чыім ёсьць ВКЛ?" стала яшчэ далей, але зь цягам часу навуковы аспэкт праблемы ўсё болей саступае месца палітычнаму ці, дакладней, геапалітычнаму.

Сёньня вызначэньне ролі беларускага рэгіёну ў фармаваньні ВКЛ як гісторыка-палітычнага, культурнага, этнічнага кантынууму набыло сэнс як ніколі важнага аргумэнту ў змаганьні за выжываньне нацыі. І мірныя развагі над мастацкай культурай эпохі барока апынуліся сёньня на пярэдняй лініі "баявых дзеяньняў", і недарэмна менавіта барока! Бо, сапраўды, тая культурная спадчына ВКЛ, якая і цяпер яшчэ ў значнай ступені застаецца ў актыўным культурным ужытку, якая на працягу чатырох стагодзьдзяў уплывала на фармаваньне нашай мэнтальнасьці, існуючы на ўсіх – ад прыдворнага да сялянскага – узроўнях культуры, якая ў масавых зьявах ужо пачала набываць рысы нацыянальнай, гэта, безумоўна, спадчына культуры барока. Готыка й рэнэсанс пераважна засталіся "наверсе" культуры, постбараковыя плыні йснавалі ў каляніяльнай сытуацыі і часта набывалі выгляд ідэалягічных дэклярацыяў розных грамадзкіх груповак, але ў сыстэму барока, нягледзячы на цяжкасьці тае эпохі, былі ўключаны ўсе станы грамадзтва і этнасы. Менавіта дынамічная, гнуткая сыстэма барока давала магчымасьць спалучыць мясцовыя традыцыі з агульнаэўрапейскімі формамі (выдатны прыклад – паўднёваамэрыканскае барока!) і ставарала падставы для разьвіцьця сапраўды нацыянальнай культуры ў кантэксьце эўрапейскае цывілізацыі. Пошукі ў гэтым кірунку на нашай нацыянальнай глебе – і гэтаму прыклад ня толькі згаданы збор – могуць даць выдатны плён. ВКЛ і барока ізноў у змаганьні... Цяпер – за незалежнасьць.

Вацлаў Арэшка

# КНІГА – ПОШТАЙ

**На складзе Фонду "Наша Ніва" маюцца кнігі:**

1. **Адам Глёбус. Толькі не гавары маёй маме...** Зборнік інтымнае прозы. — Менск: Сучасная літаратура, 1995. — 310 с. Кнігі новай сэрыі "Сучасная літаратура" разьлічаныя на поўную самаакупнасьць. Займальныя сюжэты, даверальны тон, даступнасьць — характарыстыкі гэтай сэрыі. 41.000 БРБ
2. **Адам Глёбус. Дамавікамэрон.** — Менск-Вільня-Беласток, 1994. — 140 с. 66 фантастычных, жартоўных, эратычных гісторыяў з героямі беларускай міталёгіі. Выдатная паліграфія (кніга друкавалася ў Польшчы), ілюстрацыі аўтара. 30.000 БРБ
3. **Энтані Сміт. Нацыяналізм у дваццатым стагодзьдзі.** — Менск: БФС — "Эўрафорум", 1995. — 272 с. Кніга прысьвечана шматлікім трансфармацыям нацыяналізму ў нашым стагодзьдзі, параўнаньню яго з такімі ідэалёгіямі "вызратаваньня сьвету", як камунізм, фашызм і расізм. 20.000 БРБ
4. **Юліяна Вітан-Дубейкаўская. Мае ўспаміны.** — Вільня, 1994. — 192 с. Гісторыя ахвярнага каханьня набожнай жанчыны і безнадзейна хворага мужчыны. Яна — дачка віленскага купца немца Юліяна Мэнке, ён — беларускі палітык і антыквар Іван Луцкевіч. 29.000 БРБ
5. **Баляслаў Лесьмян. Пан Блішчынскі** / Пераклад з польскай. — Вільня-Менск: "Наша Ніва" — "Мастацкая Літаратура", 1994. — 93 с. Клясык польскай паэзіі Баляслаў Лесьмян (1878-1937) стварае маляўнічы й звабліва сьвет інтымных перажываньняў чалавека. 17.000 БРБ
6. **Ziemowit Fedecki. Цёплыя вечары... ды халодныя ранкі... czyli co spiewano w Feliksowie.** — Warszawa, 1992. — 160 с. 72 народныя песьні з нотамі, запісаныя на Лідчыне ў часе II сусьветнай вайны. Тэксты песень падаюцца кірылічным і лацінкавым шрыфтамі. 17.000 БРБ
7. **Вітаўт Кіпель. Беларусы ў ЗША.** — Менск, 1993. — 352 с. У кнізе беларускага эміграцыйнага дасьледніка ўсебакова разглядаецца гісторыя і сёньняшні дзень беларускай дыяспары ў Злучаных Штатах Амэрыкі. 29.000 БРБ

Каб атрымаць патрэбную Вам кнігу, трэба пералічыць указаную суму грошай на адрас: Андрыеўскі Андрэй Паўлавіч, Менск 220094, а/с 89. Не забудзьцеся падаць свой адрас.

*Умбэрта Эка*

# Салодка мне тануць на

*урывак з рамана "Выспа ўчорашняга дня"*

Напэўна ён праспаў дзень і ноч. Так, хутчэй за ўсё, бо калі ён прачнуўся, нібы зноў нарадзіўся на сьвет, было поначы. Значыцца, зноў ноч, а не яшчэ ноч. Але ён падумаў, што яшчэ ноч, інакш за дзень нехта знайшоў бы яго. Месяцовае зьзяньне, пранікаючы з палубы, асьвятляла гэты пакой, падзелены на манэр камбузу; над печчу вісеў чыгунок.

У памяшканьні было двое дзьвераў, адны — да бушпрыту, другія — на палубу. Ён выглянуў праз іх, і перад ім паўсталі, нібы на двары было сьветла, упарадкаваныя ліны, кабэстан, манты з сабранымі ветразямі, некалькі гарматаў перад стрэльніцамі, абрыс паўюту. Ён колькі разоў гукнуў — ніводная жывая душа не азвалася; прыхіліўся да пярэгарадкі — і проста перад сабою, на адлегласьці аднэй мілі, заўважыў профіль Выспы, нават убачыў, што брыз гайдаў галіны прыбярэжных пальмаў.

Выгіналася аблямаваная пяском лука зямлі, бялела ў блядым сутоньні, але, як любы чалавек, што пацярпеў караблекрушэньне, Рабэрта ня мог сказаць, ці то была выспа, ці кантынэнт.

Дашкандыбаўшы да другога борту, ён заўважыў — на гэты раз далёка, амаль на мяжы далягляду — іншыя пікі, таксама сьціснутыя між двума мысамі. А вакол разьлягалася мора, быццам жадаючы данесьці, што карабель, праплыўшы шырокаю пратокай, якая падзяляла два масывы зямлі, прышвартаваўся на рэйдзе. Рабэрта вырашыў, што калі не між дзьвюма выспамі, дык, напэўна, ён апынуўся між Выспаю і блізкім да яе вялікім абшарам зямлі. Наўрад ці ён разглядаў іншыя гіпотэзы, бо ніколі ня чуў пра вялізныя затокі, куды плысьці — быццам паміж дзьвюх зямель трапіць. Вось так, ня ведаючы, наколькі бязьмежнымі бываюць кантынэнты, ён не памыліўся.

Неблагое становішча для чалавека, які пацярпеў караблекрушэньне: ногі на цьвёрдай падлозе, да сушы два крокі. Аднак плаваць Рабэрта ня ўмеў, а неўзабаве яшчэ й выявіў, што ніводнага чаўна на караблі няма, тымчасам стол, на якім яго прыгнала да карабля, ужо зыбаўся на плыні паводдаль ад судна, таму з уздымам радасьці выратаваньня ад сьмерці зьмяшалася разгубленасьць трайное самоты: самоты мора, карабля і суседзтва з Выспаю. "Гэ-гэй", — крычаў Рабэрта на ўсіх вядомых яму мовах, спасьціґаючы, наколькі ён бяздужы. Цішыня. Нібы на караблі ўсе памерлі. І ніколі яшчэ ягонае параўнаньне — а на параўнаньні ён быў майстар — не бывала трапнейшым. Бадай так, і пра гэта бадай я хацеў бы мовіць, ды ня ведаю, з чаго пачаць.

Зрэшты, я ўжо пачаў. Зьнямоглы чалавек блукае па акіянскіх прасторах, і літасьцівыя воды выносяць яго да карабля, які здаецца пустэльным. Пустэльным, быццам экіпаж пакінуў судна хвілінай раней, бо Рабэрта, не бязь цяжкасьцяў вярнуўшыся ў камбуз, зьвяртае ўвагу на лямпу ды крэсіва. У такім выглядзе мог пакінуць яго карабельны кухар, кладучыся спаць, але двух'ярусныя ложкі побач з камінам пустуюць. Рабэта запальвае лямпу, аглядаецца па баках і знаходзіць вялікую колькасьць харчу: сушаная рыба, сухары, нягледзячы на вільгаць, амаль не кранутыя блакітам цьвілі, адзін раз пацягні нажом ды грызі. Рыба саланюткая, але вады — колькі схочаш.

Хутка Рабэрта ўвабраўся ў сілу, ці сілы ўжо былі вярнуліся да яго, бо ён стаў пісаць — шматслоўна, узьнёсла і адмыслова —пра ўцехі сваёй бяседы, зь якой не зраўняецца ніводзін банкет алімпійскіх багоў, пра райскую амброзію зь бezданяў смарагдавых, пра дзіва ператварэньня сьмерці ў жыцьцё. Вось жа, што Рабэрта піша Пані свайго сэрца: *"Сонца майго ценю, цемры маёй сьвятло, чаму нябёсы, ганарліва ўзьняўшы гэтую буру, ня зрынулі мяне ў яе вір? Нашто вырвалі маё тло з пашчы сасмаглага Нэптуна, калі сьледам у пагатоў трагічнай прагнай самоце захлынуцца мусіла душа мая?*

*Магчыма, калі мілажальныя нябёсы не адораць мяне сваёй спамогай, Вы ніколі ня ўбачыце ліста, які я ў гэтай хвілі пішу Вам, і згарэўшы дазваньня, як паходня, агнём гэтых водаў, счарнею я ў Вашых вачох, падобна Сэлене, што на жаль свой цешыцца з сонечнага агню, паступова рухаючыся ў сваёй пілігрымцы за край эліпсу нашай плянэты, пазбаўленая спамогі промняў сьвяціла — валадара, спачатку марнее ў лёгкі сярпочак, і той быццам пераўжывае сьцябло вышняга жыцьця, і зьнібыткоўваецца яснота начнога вока, і да рэшты растае яно на агромністым лазуровым шчыце, дзе мудрая прырода яўляе свае буйвасныя гербы й загадкавыя*



Малюнак Сергея Харэўскага

*Андрэй Дынько*

# Факс на той сьвет

Цяжкая штука для беларуса пісаць пра сучаснага эўрапейскага пісьменьніка: адчуваеш бадай тое самае, калі пасылаеш факс у Ватыкан. Звыклая нібыта справа: цісьнеш на "старт", і гатова, але ўсё ж ніякавата. Рыхтык пасылаеш факс на той сьвет. Каб яшчэ ліст на файнай паперы з выкшталцонымі завітушкамі літараў, а то банальны, звыклы факс. Тое самае з Эка: мы настолькі зжыліся з закаванай у кантэкст, немагчымай безь яго беларускай літаратурай, што незмардаванасьць рэчаіснасьцю любога эўрапейскага літаратара здаецца пасткаю ці містыфікацыяй, якія таксама сталіся другою паловай беларускае душы.

Апроч гэтага, ужо чыста з псыхалягічнага гледзішча, Эка сваім становішчам пісьменьніка-паходні і валадара італьянскіх думак выклікае жаданьне супярэчыць яму. Шматлікія культуры адчуваюць патрэбу ў такім лідары, вылучаюць яго больш ці менш заслужана і ператвараюць са зьявы мастацкай у зьяву сацыяльную. Уплыў такога мастака не абмяжоўваецца колам інтэлектуалаў, а праектуецца на шырокую грамаду. Ад такіх пісьменьнікаў увесь час чакаюць: "зараз ён нешта скажа". І нават, калі такія людзі захоўваюць рэдкую здольнасьць да самаразьвіцьця, яны ўсё адно не пазьбягаюць ролі пэўнага кшталту Бацькоў, якіх сыну хочацца аспрэчыць.

Прэтэнцыёзнасьць Эка выяўляецца найперш у ягоных інтэрвію, якія ён раздае, нібыта седзячы за 40 кілямэтраў ад свае млявае, тлустае, як яе называюць італьянцы — "Bologna la grassa" — Балёны, у "Фэрары", пад помнікам яе ўтрапёнаму сыну Саванаролу. У інтэрвію Эка можа зь безапэляцыйнасьцю прарока разважаць аб тым, як кампутар, унук кнігі, дапаможа сваёй бабулі паставіць крыж на халернай тэлевізіі; ці эфэктна думае ўголас пра тое, што для яго кампутар ды аловак аднолькава важныя, бо ў пэўных выпадках, напрыклад, падчас вандровак, алоўкам карыстацца ямчэй, хоць увогуле кампутар зьмяняе працэс літаратурнае творчасьці, бо ліквідуе этап рукапісу; ці называе самай надзённай праблему фізычнай захавальнасьці кніг. Апошнім часам памяркоўна закранаецца тэма Бога: сябра Эка, балёнскі эканаміст Рамана Продзі, лідар левых, "заабортніцкіх" каталікоў (іхны сымбаль — аліўкавае дрэва) мае быць падтрыманы на выбарах "дубам", то бок былымі камуністамі, лявіцай, пешчаным дзіцём італьянскіх пісьменьнікаў.

Між тым, ледзьве ня ўсё сваё юнацтва Эка імкнуўся вызваліцца ад Бога. "Імя ружы" й было кнігай чалавека, які вывучаў і пісаў пра сярэднявечную эстэтыку, які абараняў дыплёмную паводле Тамаша Аквінскага (1954, "Эстэтычнае праблема ў Сьв. Тамаша"), а затым перавыдаў гэтую працу ў 1970 годзе, і ў назове Сьв. Тамаш стаў Тамашом проста. "Півач Фуко" зьявіўся хутчэй увасабленьнем іншай аўтарскай юнацкае думкі пра сьвет як вынік звар'яцелай гермэнэўтыкі і пра спробы надзяліць гісторыю рацыянальным сэнсам.

Напэўна, на першыя два раманы і на сэміялягічныя працы Эка вялікі ўплыў зрабіла атмасфэра Балёны, гораду са здаровым сэнсам і заснаваным юрыстамі ўнівэрсытэтам, гораду, які так і ня здолеў стварыць нічога вялікага, акрамя дзьвюх вежаў-суперніцаў, што бязглузда тыцнуліся ў неба, ды так моцна, што адна скрывілася і ледзьве стаіць. Дарма Балёньня мерылася барукацца з Флярэнцыяй, яна нават не змагла дабудаваць фасад свайго вялізнага сабору Сан-Пэтроньня. Славутую сярод эміліянцаў, жыхароў правінцыі, цэнтрам якой — Балёньня, фразу з Бакача "O singular dolcezza del sangue bolonese" нават перакласьці можна двума спосабамі: "О, асаблівая слодыч балёнскае крыві" (ваўкалацтва нейкае!) і "О, асаблівая рахманасьць балёнскае крыві".

Сапраўды, Балёньня робіць чалавека памяркоўным; з-пад шматлікіх змрочных аркадаў балёнскіх дамоў ня ўбачыш ня тое, што месяца, гэтага халоднага цыганскага сонца, такога мілага італьянцам (Пірандэлё, Леапардзі, Мантале ці ўзяць апошні вар'яцкі фільм Фэліні), але нават неба. Можа, таму ў балёнцах цыганскасьці менш, чым у іхных суродзічах зь іншых гарадоў. Балёнцаў падабаеш больш за Балёнью, асабліва, калі яны пачастуюць цябе сваімі смачнымі tortellini, якія напярэдадні ляпілі ўсёю сям'ёю са слынным lambrusco.

Разнастайнасьць балёнскіх стравааў не дае нарадзіцца тузе безнадзейнасьці, нават калі кожны дзень чыкільгаеш па сьпякоце на пляц Вэрдзі, у сэрца ўнівэрсытэту, каб выпадкова (бо пэрыяд лекцыяў скончаны) сустрэць Эка, інтэлектуала, якога разумее народ (нашым бы такую "ганебную" для эліты папулярнасьць: 26 мільёнаў асобнікаў "Імя ружы", прададзеных у сьвеце), а Эка ўсё не праходзіць побач. Ці ў гэтым вінаватыя балёнскія філфакаўцы, што замест здачы іспытаў усё страйкуюць ды страйкуюць, і ня проста так, а з акупацыяй будынкаў? Лёгка ім бунтаваць, калі іх не зьбіваюць і ня звозяць у пастарунак. Але ж, ці Эка прычынаю, ці рахманасьць балёнскае крыві, але на ўнівэрсытэцкіх мурах тут ня знойдзеш звыклага ангельскага слова, якое пачынаецца на "f", а сканчаецца на "k". Праўда, зь іншага боку, летась сотні балёнцаў, сьвяткуючы перамогу над зборнай Нігерыі на чэмпіянаце сьвету, усьпяліся на спрадвечны сымбаль гораду, фантан Нэптуна, добра патрушчыўшы крохкае збудаваньне.

Можа, якраз тады, калі я чакаў Эка на пляцы Вэрдзі, ён дапісваў свой трэці раман: "Выспу ўчорашняга дня". Трэба адзначыць, што працуе сіньёр Умбэрта ўсё больш спраўна: "Імя ружы" ён таіў у сэрцы 48 гадоў, "Півач" — 8, а "Выспу" — толькі 6. І пісалася "Выспа", напэўна, таксама ў "Фэрары", у дворыку побач з музэйчыкам пасьмяротных эпітафіяў за палацам Скіфаноя, дзе Баярда чытаў Эркале І д'Эстэ "Ралянда закаханага", а Арыёста чытаў Альфонсу, сыну Эркале, свайго "Ралянда ўтрапёнага", дзе Таса гуляў з апошнім герцагам фэрарскім Альфонсам II... Героя "Выспы" клічуць не Ралянд, а Рабэрта, але ягоныя авантуры і пабудова раману ці не запазычаныя зь велічнае "ранейшае" літаратуры.

# гэтым караблі

*сымбалі таямніцаў. Але цяпер Ваш позірк засьцілае мне вочы, сьляпы я, бо Вы мяне ня бачыце, нямы, бо Вы не гаворыце мне, бяспамятны, бо Вы пра мяне забыліся.*

*Ува мне жыве толькі палкая золкасьць ды ймжыстае полымя смужнае здані, і мой дух хацеў бы ўзычыць Вашаму гэтую здань, што не зьнікае ў злыбезнай сечы супрацьлегласьцяў. Паланёны Нэптунам, ратуючы жыцьцё на гэтым драўляным уцёсе, на гэтым хісткім бастыёне, які мне заступнікам ад Нэптуна, укараны вялікадушнасьцю нябёсаў, схаваны ў гэтым мізэрным саркафагу, расхінутым усім сонцам, у гэтым горным скляпеньні, у гэтым непрыступным астрозе, расчыненым на ўсе бакі, не спадзяюся ўбачыць Вас болей.*

*Пані, пішу Вам, быццам аддаю нявартую маю пашану, адцьвілую ружу маёй скрухі, аднак маё зганьбаваньне нават перапаўняе мяне гонарам, і раз ужо мой вырак — такі дар, я бадай што цешуся зь нямілага выратаваньня. Думаю, што колькі жыве чалавек, адзіны я з роду людзкога караблекрушэньнем закінуты быў на пустэльны карабель".*

Ці магчыма, каб першы ліст быў гэткі? Калі меркаваць паводле даты на ім, Рабэрта ссў за пісаньне неўзабаве пасьля свайго прыбыцьця на карабель, як толькі знайшоў паперу ды пяро ў капітанскай каюце і перш, чым дасьледаваць рэшткі судна. І ўсё ж пэўны час ён мусіў змарнаваць на тое, каб увабрацца ў сілу, каб скінуць зь сябе зьнямогу параненага зьвера. Магчыма, што гэта быў нявінны хітрык каханьня: спачатку ён усё ж знаёміўся зь месцам, у якім апынуўся, пасьля піша гэтак, нібы адразу ўзяўся за пяро. Чаму ён ведае (мяркуе, баіцца), што лісты ніколі ня знойдуць адрасата і піша адно з пакуты (пакутнае ўдачы, па-ягонаму, але мы будзем стрыманыя)? Цяжка здагадацца пра ўчынкі ды пачуцьці героя, які палае шчырым каханьнем, але невядома, ці выкладае на паперы тое, што адчувае, ці тое, да чаго абавязваюць правілы пяшчотнага жанру, але, зь іншага боку, што мы ведаем пра розьніцу паміж жарсьцю, якую адчуваеш, і жарсьцю, якую выкладаеш на паперы? Каторая зь іх першасная? Таму гэта не пісьменства, а пісаньне дзеля сябе; піша, быццам падлетак, песьцячы нязбытную мару і з нэндзы нараджаючы радок за радком. Яму пішацца не таму, што каханая далёка, нават блізкаю яна была адно толькі вобразам, але ад пяшчоты да сябе, закаханага ў каханьне.

Тут матэрыялу хопіць на цэлы раман, але, зноў жа, з чаго пачаць?

Я вам кажу, што першы ліст ён напісаў ужо пасьля таго, як агледзеўся, але пра ўбачанае напіша толькі ў наступных допісах. Хай сабе так, і ўсё ж, як перакладаць дыярыюш чалавека, які трапнымі мэтафарамі апавядае пра тое, што сам бачыць кепска, бо ён, хворы на вочы, дасьледуе карабель уначы?

Рабэрта скажа, што на вочы скардзіўся з таго часу, калі куля скрабянула па скроні пры аблозе Казале.*

У іншым месцы ён намякае, і, можа стацца, яно й праўда, што вочы аслаблі з прычыны мору. Рабэрта быў кволага целаскладу, нават іпахандрычнага, наколькі я зразумеў; ягоная боязь сьвятла была напалову абумоўленая нейкім раздражненьнем, і тут яе яшчэ абвастрылі прэпараты пана д'Ігбі.

Дакончыла справу, бясспрэчна, падарожжа на "Амарылі", дзе ён не выходзіў з закрытага памяшканьня і мусіў пазьбягаць сьвятла, каб не спускаць труму з вачэй. І гэтак некалькі месяцаў — у цемры, пры сьвятле кноту, а пасьля — вандроўка на абломку карабля пад асьляпляльным экватарыяльным ці трапічным сонцам. Калі ён прыстае да "Дафны", дык, хворы ці не, ён баіцца сьвятла, праводзіць першую ноч у камбузе, ачуньвае, а другое начы адважваецца на выправу па караблі. Дзённае сьвятло палохае яго, раздражняючы ня толькі вочы, але й абпаленую сонцам сьпіну; ён хаваецца ад сонечнага сьвятла, ды неўпрыкмет звыкаецца з начным ладам жыцьця. Выгляд месяца паляпшае яму настрой; удзень неба здаецца яму надта звычайным, а ўначы ён адкрывае новыя сузор'і (тыя самыя буйвасныя гербы й загадкавыя сымбалі); ён пачуваецца як у тэатры; ён упэўніваецца, што мусіць доўга заставацца на караблі, можа, да самага скону, і, каб ня страціць сваёй Пані, стварае яе наноў на паперы, пераконваючыся, што, сапраўды, з часу расстаньня страціў няшмат.

І вось ён захутваецца ў свае начныя няспаньні, нібы ў мацярынскае ўлоньне і вырашае разьвітацца з сонцам. Магчыма, ён чытаў пра мадзярскіх, лівонскіх ды валаскіх ваўкалакаў, што нястомна вандруюць ад вечаровых зараніцаў да дзяньніцы, а пасьля першага пеўневага сьпеву зашываюцца па магілах: ён уцягнуўся ў пэўнага кшталту гульню...

На другі вечар Рабэрта, мусіць, пачаў складаць інвэнтар сваёй маёмасьці. Ён досыць гукаў і ўжо ня думаў пра тое, што на караблі нехта ёсьць. Але нябожчыкаў ён мог знайсьці з усёй верагоднасьцю, тады б стала ясна, чаму карабель пусты. Асьцярожна рушыў ён у экспэдыцыю, і зь лістоў цяжка зразумець, зь якой часткі карабля ён пачаў: ані судна, ані бартавыя прылады дакладна не апісаныя. Іншыя прылады падаюцца яму знаёмымі, бо ён чуў пра іх ад маракоў, іншых ён ня ведае і апісвае такімі, якімі бачыць. Верным знакам таго, што каманда весьляроў на "Амарылі" была зборнай шыбельнікаў зь сямі мораў, ёсьць факт, што адну прыладу ён называе па-француску, другую — па-галяндзку, трэцюю — па-ангельску. Не адразу ўцяміш, чаму іншы раз ён накіроўваецца на карму ў капітанскую рубку ці паўют, а іншы раз і на задні галіяр: галіцызм, які азначае тое самае; ён ужывае слова "стрэльніца", і я яму ахвотна дарую, бо гэтае слова нагадвае мне дзіцячыя кнігі пра морскія вандроўкі; вядзе гаворку пра "парусок", які мы называем ветразем фок-мачты, але пакуль для французаў perruche — гэта наш контар-бэзан, незразумела, што ён мае на ўвазе, калі кажа, што стаяў пад парускам. Я ўжо не кажу, што й сам бэзан ён часам на францускі манэр называе "артымонам". У такім разе, што ён хоча сказаць словам "мэзан", бо для французаў гэта фок-мачта (але, дзякуй Богу, не для ангельцаў, бо для іх бэзан — mizzenmast)?

Калі ж я памыляюся — нічога страшнага; гісторыю ня зьменіш.

**Казале — месца ў П'емонце. Рабэрта дэ ля Грывэ родам з Манфэрата, раёну П'емонту. Заўвага перакладчыка.*

Umberto Eco. L'isola del giorno prima. Bompiani, 1994

У "Высьпе ўчорашняга дня" Эка амаль маніякальна адточвае мову й апісаньні, што робіць раман проста шыбеніцай для перакладчыка. Нельга не прызнаць трапнасьць словаў Лючана Бэр'ё (Luciano Berio), кампазытара, аўтара музыкі да фільму "Імя ружы": "Чытайце яго, а лепш слухайце, бо гэта музыка". Паводле рытмічнасьці "Выспа" не саступіць Гогалю ці Рамэну Раляну. Эка прымушае грудзі прозы ўздымацца й апускацца, прыдаючы музычнае вымярэньне пашырэньням і звужэньням часу. Аб'ект жаданьняў галоўнага героя, Галубка колеру памаранца, якая лётае недзе там, за смугою дрэваў і якую так карціць убачыць, ёсьць цэнтар, вакол якога пульсуе стылістычна выяўлены час. Мінулы зьнітаваны зь цяперашнім, гукі са словамі, палёты напышлівае шчырасьці з заглыбленьнем на падманныя сьцяжынкі аўтарскае лёгікі, недарэчная і ўрачыстая абмежаванасьць мэтафарычнае старасьвеччыны з прасторнай картэзіянскай самотай і вераю ва ўсемагутнасьць жывое думкі; мастацтва робіцца мэтай, ладам і нормай жыцьця, бо рэчаіснасьць недасяжная. Пульсацыя мора й біцьцё жарсьці засяроджваюць нашу ўвагу не на прадметах ці асобах, а на прыкметах іх дзеяньня. Толькі час жыве, пульсуе, але ня дзее, адчувальны і недасягальны адначасова. Выспа вабіць Рабэрта, вось жа яна, перад вачыма; між караблём і Выспаю, недзе тут, сярод таямнічай абыякавасьці хваляў, праходзіць стовасьмідзясяты мэрыдыян, мэрыдыян перамены датаў. Такім чынам, Выспа жыве ўчорашнім днём, добра бачным, памятным і недасягальным. Прылівы й адлівы крыві ў сэрцы часу не зьмяняюць адвечнай установы жыцьця: нават літаратура ня здольная занесьці нас на Выспу ўчорашняга дня.

Не сустрэў я Эка летась, не сустрэў сёлета, можа, пашанцуе праз год. Дарэчы, цяпер мне ёсьць чым упікнуць яго: ёсьць і ў "Высьпе" памылка. Дзеяньне раману адбываецца ў XVII ст., а слова "perruche", на якім Эка будуе адзін з сваіх міжмоўных калямбураў, зьявілася ў францускай мове толькі ў 1732 годзе (Petit Robert, 1991, p. 1408).

ЗАНАТОЎКІ ЭГАІСТА

*Адам Глёбус*

# Неэратычныя сны

Прысьнілася... Уступіў у таемны масонскі саюз, які займаецца вывучэньнем забойстваў. Выглядала ўступленьне наступным чынам: да мяне з паўразбуранага менскага Дому масонаў выйшаў высокі малады чалавек у доўгім чорным незашпіленым палітоне і сказаў, што я прыняты ў таемную арганізацыю, якая займаецца дасьледаваньнямі забойства чалавека чалавекам. Малады масон прапанаваў ісьці за ім, і я, ні слова ня кажучы, падпарадкаваўся, нібыта была папярэдняя дамоўленасьць пра маё безумоўнае паслухмянства. Ішлі мы каля зялёных аўтамабільных гаражоў... Прачнуўся.



*

Еду на цягніку, за вакном вымытыя дажджамі травеньскія краявіды. Цягнік прыпыняе свой ход, сыходжу на станцыі Койданава.

Мяне вязе па вуліцы Чапаева невядомы мужчына ў вайсковым плямістым адзеньні, вязе на ровары, я сяджу на багажніку.

— Вось дом цёткі Мілі, а гэты — Толікаў, — кажу я ў плямістую салатную сьпіну.

— Я ўсё ведаю, — адказвае.

— Спыні...

Незнаёмец маўчыць. Яму цяжка ўзьяжджаць на гару, і я лёгка саскокваю на вільготную пасьля дажджу траву.

Ні ў цёткі Мілі, ні ў Толіка нікога няма.

Праз сады я праходжу да дому бабы Ядзі.

З бляшанага жалабка вялікія кроплі дажджавое вады падаюць у паўнюткую жалезную бочку, зь якой у сьпёку будуць паліваць гарод.

На падворку стаіць вялікі стол, за якім сядзяць ледзь ня ўсе мае койданаўскія сваякі: Казік, дзядзька Ваня Мілько, баба Маня Кісель, Антон, Ніна, цётка Міля, дзед Ваня, Толік, Слаўка, Віця, Шурык, дзядька Чэсік, цётка Алёна, Валя, Рэня...

На стале няма посуду, адно некалькі паўпустых пляшак з сухім вінам.

— Во і ён прыйшоў, — сказаў дзядзька Ваня.

Мяне крыху зьдзівіла, што мяне не назвалі Валодзем.

Але сытуацыя выправілася. Ніна, жонка майго дзядзькі Антона, запрасіла ў хату:

— Ты зайдзі паеш з дарогі, а то са стала мы ўсё прыбралі. Добра, што прыехаў, гэта якраз сёньня пачынаюцца саракавіны па бабе Ядзі...

Я прачнуўся. Была палова на пятую. На кухні выпіў паўшклянкі вады, седзячы на ложку, думаў-гадаў пра сон.

Баба Ядзя памерла ў 1969 годзе. Мінула чвэрць стагодзьдзя. Якія саракавіны?..

*

Есьць сны, што паўтараюцца на працягу жыцьця. У мяне такі сон зьнітаваны з вайною. Сяджу ў акопе. На мне форма немаведама якога войска. Званьне, як можна здагадацца, маю найменшае. Акоп доўгі, крывы, і ў ім шмат салдатаў. Афіцэр страляе ўгору і крычыць, каб салдаты ўздымаліся й беглі ў атаку. Большасьць выконвае загад. У акопе я застаюся адзін. Афіцэр вяртаецца і пачынае пагражаць пісталетам. Да гэтага моманту сон паўтараецца нязьменна з аднолькавымі дэталямі: я пастрыжаны нагола, з акопных сьценак струменіцца тонкі сухі пясок, разьюшаны афіцэр трасе зброяй перад маім тварам. А вось разьвязкі бываюць розныя. Здараецца, што я страляю з карабіна афіцэру ў грудзі. Бывае, ён пускае кулю ў маю скронь. А часам я прачынаюся ў той момант, калі афіцэр вяртаецца.

*

Іду вуліцай Альшэўскага ў накірунку школы №16. Мяне суправаджаюць два мурыны ў спартовых гарнітурах. Яны распытваюць пра вартасьці энцыкляпэдыяў на CD. Я паступова ссоўваю размову на зборнік хоку беларускіх паэтаў, у якім не знайшлося месца ні Алесю Разанаву, ні Зянону. Маіх спадарожнікаў не цікавіць паэзія, і яны не хаваюць гэтага. Мы заходзім у невялічкія дзьверы з акенцам, тут звычайна запраўлялі сыфоны газаванай вадой з цытрыновым сыропам. Замест запраўшчыцы нас вітае вусаты трэнэр па плаваньню. Пакуль мурыны гавораць з трэнэрам, я праходжу ў душ. Вада ледзяная. Прачынаюся...

# ГЕНЭТЫЧНЫЯ ЭКСПЭРЫМЭНТЫ: ВАКЦЫНА БУДУЧЫНІ

***Чорная воспа застаецца адзінай хваробаю, якую, дзякуючы папярэдняй вакцынацыі, удалося адолець цалкам. Аднак дасюль няма прышчэпкаў, што былі б надзейнаю абаронай ад малярыі, халеры альбо AIDS.***

Вакцынацыя супраць грыпу дае вынік у 70-90% выпадкаў, супраць слупняку — залішне часта абарочваецца пабочнымі эфэктамі, супраць карыесу — ня выйшла яшчэ нават за межы лябараторыяў. Пералік інфэкцыйных хваробаў, супраць якіх няма надзейных сродкаў аховы, можна доўжыць і доўжыць. Але праўдзеньне прафіляктычнай вакцынацыі адзіны шлях да канчатковай перамогі ў барацьбе зь мікраарганізмамі.

Польская сыстэма прафіляктычнай вакцынацыі прадугледжвае восем хваробаў, супраць якіх штогод робяцца прышчэпкі дзецям і моладзі. У многіх краінах Афрыкі ды Азіі сытуацыя выглядае значна горш. Там дагэтуль застаецца надзённаю мэта Сусьветнае Арганізацыі Здароўя, сфармуляваная ў 1989 годзе: паўсюднае прышчапленьне вакцынаў супраць шасьці хваробаў. Гаворка ідзе пра сухоты, поліяміэліт, дыфтэрыю, слупняк, коклюш і адзёр. Прышчэпкі гэтыя не дэфіцытныя, бракуе толькі грошай.

## Хваробы ашукваюць чалавека

Інвэстыцыі патрэбныя таксама на разьвіцьцё навуковых досьледаў. Зь цягам часу зьяўляюцца ўсё новыя бактэрыі ды вірусы, якія патрэбна нэўтралізаваць. Гэтаксама старым, добра вядомым інфэкцыям удаецца ашукваць імунную сыстэму чалавека, у выніку чаго робяцца неэфэктыўнымі ранейшыя мэтады барацьбы зь імі. Разам з тым навукоўцы яшчэ шмат чаго ня ведаюць пра мэханізм дзеяньня большасьці прышчэпкаў і магчымасьці іх выкарыстаньня. Ад лябараторных досьледаў да рынкавага продажу новага фармацэўтычнага прадукту праходзіць зараз блізу 10 гадоў.

Досьледная праца, зьвязаная з стварэньнем новае вакцыны, каштуе больш за 200 мільёнаў даляраў. Вытворцы ахвотней фінансуюць працу над іншымі лекавымі прэпаратамі, якія хутка знаходзяць пакупнікоў у багатых краінах, бо вакцыны купляюць найперш установы ААН для



разьвіцьцёвых краінаў і плоцяць за іх няшмат. У гэтых краінах штогод рэгіструецца ад 300 да 500 мільёнаў выпадкаў малярыі, стала разгараюцца эпідэміі халеры, тысячы дзяцей паміраюць з прычыны інфэкцыйных паносаў. Як жа рэагуе на гэта навука і вытворчасьць?

Мікраарганізм Plasmodium vivax, што выклікае малярыю, мае нечувана складаны цыкл разьвіцьця. У 70-х гадах спрабавалі выкарыстаць інфэкцыйную разнавіднасьць узбуджальніка хваробы, так званыя спаразаіты, якіх папярэдне абясшкоджвалі. Мэтад стаўся выніковым, аднак занадта дарагім для распаўсюджваньня. На сёньня вядома, што супрацьмалярыйная вакцына павінна складацца зь бялкоў, што ўтвараюцца на розных стадыях разьвіцьця ўзбуджальніка. Такі прэпарат можа быць створаны толькі праз генную інжынэрыю.

Падобная сытуацыя існуе і з халераю, нягледзячы на тое, што вакцына супраць яе была створаная яшчэ ў 1892 годзе — праз восем гадоў пасьля адкрыцьця бактэрыі халеры Робэртам Кохам. З таго часу на сьвеце адбылося сем пандэміяў гэтае хваробы; апошняя доўжыцца ўжо 35 гадоў. Чалавеку пагражаюць два віды халеры, і прышчэпка, што засьцерагае ад аднаго, не гарантуе абарону ад другога. Апроч таго, дзеяньне прышчэпкі нетрывалае і праз тры месяцы пасьля яе паслабляецца. Выкарыстоўваючы мэтады геннай інжынэрыі, дасьледнікі спрабуюць вылучыць з бактэрыі ген, які кадуе таксыны, і стымуляваць ахоўныя сілы арганізму нэўтралізаваным узбуджальнікам. Прэпарат, праўда, дае пабочныя эфэкты (павышэньне тэмпэратуры, панос, ванітаваньне), але затое падчас клінічных досьледаў 80% добраахвотнікаў засьцераглося ад хваробы.

Блізкія да посьпеху экспэрымэнты з новаю прышчэпкаю ад слупняку. На цяперашні момант выкарыстоўваецца вакцына з слупняковага анатаксыну — бялку, што ўтвараецца бацыламі слупняку, які хімічна ачышчаецца даволі прымітыўным спосабам. Аднак можна выдаліць з храмасомаў бактэрыі гены, якія абумоўліваюць таксычнасьць анатаксыну. Дастаткова толькі замяніць у ланцужку ДНК асобныя амінакіслоты!

Але ці хопіць навукоўцам грошай на заканчэньне ўсіх гэтых досьледаў? Дваццаць гадоў таму ў ЗША працай над новымі вакцынамі займалася да 20 фармацэўтычных фірмаў, прз 10 гадоў іх засталося толькі чатыры.

### 200 ГАДОЎ ВАКЦЫНАЦЫІ

| | |
|---|---|
| 1796 | **Эдвард Джэнэр** прышчапіў хлопца выдзяленьнямі з пухіроў хворай на воспу каровы; праз два гады распачаў сыстэматычную вакцынацыю. |
| 1885 | **Люі Пастэр** распачаў прышчапленьне людзей супраць шаленства. |
| 1892 | **Хафкінз** ужыў жывую выкцыну супраць халеры. |
| 1913 | **Бэхрынг** распачаў вакцынацыю супраць дыфтэрыі. |
| 1921 | **Калмэт і Гуэрын** вынайшлі супрацьсухотную вакцыну. |
| 1927 | **Рамон і Зоэлер** распачалі прышчапленьне таксынаў слупняку. |
| 1932 | **Сэлярд і Ляйгрэт** пачалі прышчапляць супраць жоўтай ліхаманкі. |
| 1954 | **Сальк** вынайшаў вакцыну супраць поліяміэліту. |
| 1960 | **Эдмансан** зрабіў вакцыну супраць адзеру. |
| 1962 | **Вэлер** распачаў прышчэпкі супраць краснухі. |
| 1966 | **Вэйбэль** вынайшаў вакцыну супраць заўшніцы. |
| 1976 | **Маўпас** вынайшаў прыщчэпку супраць віруснага гепатыту. |
| 1968–1984 | пашырэньне вакцынацыі супраць мэнінгіту, пнэўмакокаў. |

## Вайна зь мікраарганізмамі

Два стагодзьдзі таму ангельскі лекар Эдвард Джэнэр стварыў, абапіраючыся на досьвед народу, першыя прышчэпкі супраць воспы. Паколькі даяркі, заражаныя каровінаю воспай, ніколі не хварэлі на чорную воспу, у траўні 1796 году вучоны прышчапіў маладога хлопца выдзяленьнямі з пухіроў. Ён нават не спадзяваўся, што ягоны мэтад будзе такі выніковы. Амаль праз сто гадоў Люі Пастэр правёў вакцынацыі, што баранілі хатнюю птушку ад халеры, сьвіньняў ад заўшніцы, авечак ад чорных пухіроў. А калі ў 1885 годзе ён адолеў шаленства ў людзей, неабходнасьць вакцынацыі сталася відавочнаю. З таго часу прынцыпы яе ажыцьцяўленьня не зьмяніліся, зьмяняліся толькі погляды на ідэальную вакцыну.

Пасьля прышчэпкі чалавек пачынае нібыта хварэць на адпаведную хваробу. Вакцыны ўтрымліваюць жывыя (але паслабленыя) ці мёртвыя мікраарганізмы (часам толькі прадукты іх мэтабалізму). Яны маюць на мэце актывізаваць імунную сыстэму чалавека.

Прыроджаны імунітэт да хваробаў скіраваны супраць усіх мікраарганізмаў. Напрыклад, існуе анатамічны бар'ер — утварэньне мясцовага запаленчага працэсу, паглынаньне бактэрыяў альбо вірусаў спэцыяльнымі клеткамі. Аднак асобныя ўзбуджальнікі хваробаў могуць пранікаць праз усе гэтыя перашкоды. Тады яны трапляюць у апарат страваваньня і сыстэму звароту крыві. Там іх сустракае чарговая лінія абароны, утвораная макрафагамі, якія маюць вялізнае значэньне ў імунітэце, але ўжо набытым. Існуе вельмі неаднародная група белых крывяных цельцаў, што самі змагаюцца з чужароднымі клеткамі, а таксама мабілізуюць лімфацыты, якія складаюць, уласна кажучы, аснову імуннае сыстэмы.

Менавіта праз лімфацыты арганізм чалавека можа супрацьпаставіць мікраарганізмам разнастайныя антыцелы. Калі ў кроў трапляе першая порцыя вакцыны, першыя антыцелы ўтвараюцца найпазьней на чатырнаццаты дзень. За некалькі дзён іх колькасьць захоўваецца на адным узроўні, а потым паволі зьмяншаецца. Гэтая порцыя даецца для таго, каб клеткі, задзейнічаныя ў ахоўнай сыстэме, навучыліся пазнаваць ворага.

Калі вакцына прышчапляецца другі раз, імунная сыстэма ўжо ведае што рабіць. Спэцыфічныя антыцелы будуць выпрацоўвацца з гэтага часу стала, у пэўных выпадках — нават да сьмерці. Дзякуючы імуннай памяці, мы не хварэем на цяжкія хваробы, супраць якіх нас прышчапілі ў дзяцінстве. Мы не павінны таксама захварэць і на грып, калі перад гэтым (найлепей позна ўвосень) падумаем пра прышчэпку, якая ўтрымлівае адпаведны тып вірусу на дадзены сэзон.

Якая ж павінна быць ідэальная вакцына? Перадусім прэпарат мусіць складацца з найдзейсных складнікаў, якія прымусяць лімфацыты хутка ствараць антыцелы. Спосаб яе ўвядзеньня павінен быць максымальна набліжаны да таго шляху, якім звычайна трапляе ў арганізм інфэкцыя. Яна мусіць засьцерагчы нас ня толькі ад заражэньняў, але і ад самое хваробы. Набыты імунітэт (найлепей пасьля аднаразовай прышчэпкі) павінен трымацца як мага даўжэй.

## Хто ўратуе сьвет?

На працягу апошняга дзесяцігодзьдзя на рынку зьявіліся толькі тры новыя вакцыны: супраць віруснага гепатыту тыпу А і В, а таксама супраць бактэрыі Haemophilus influenzae, якая выклікае шматлікія запаленчыя працэсы, асабліва цяжкія ў дзяцей. Дасьледуюцца вакцыны супраць ветранай воспы, цытамэгаліі і яшчэ дзьвюх вірусных хваробаў. У кожным выпадку схема застаецца тая самая: найперш трэба выявіць характэрныя рысы той школы, якую выклікае ўзбуджальнік, потым правесьці выпрабаваньні на жывёлах, і ўрэшце распачаць выпрабаваньні на людзях.

Ужо ў першай палове мінулага году ў некаторых штатах ЗША правялі першыя прышчэпкі дзецям супраць ветранай воспы, хоць паводле клінічных дасьледаваньняў яны маюць станоўчы эфэкт толькі ў 70 працэнтах выпадкаў. У дадатак да гэтага бацькам рэкамэндавалі не даваць дзецям на працягу шасьці тыдняў асьпірыну, баючыся вострых пабочных эфэктаў.

Ня меншыя праблемы зь вірусам цытамэгаліі, якім заражана ў некаторых краінах да паловы дарослага насельніцтва. Шмат хто ня ведае пра сваю хваробу, бо яна мае толькі часовыя праявы, падобныя да грыпу. Аднак для плоду і людзей з паслабленым імунітэтам гэты вірус вельмі небясьпечны. Экспэрымэнтальная прышчэпка ўтрымлівае адзін з асноўных бялковых чыньнікаў вірусу цытамэгаліі, супраць якога павінны скіравацца антыцелы ў арганізме чалавека. Аднак перш чым пачаць рынкавы продаж прэпарату, трэба вызначыць, якая колькасьць вакцыны найбольш выніковая і колькі разоў трэба чалавека прышчапляць.

Мэтад вакцынацыі таксама вельмі істотны, бо вызначае пасьпяховасьць прышчэпкі. Большасьць сучасных прэпаратаў уводзяцца пад скуру альбо ў цягліцы. Праз гэта іх актыўныя чыньнікі трапляюць акурат да клетак імуннае сыстэмы. Вакцына супраць сухотаў уводзіцца ў скуру. Падчас масавых вакцынацыяў найлепшаю была б вакцына, якую трэба выпіць, як напрыклад поліяміэлітную. На жаль, гэткі спосаб ужываньня вакцынаў зазвычай ня мае плёну — біялягічна актыўныя чыньнікі зьнішчаюцца, не пасьпеўшы дасягнуць лімфатычнае тканкі кішкаў.

Каб узмацніць імунную ахову, альбо прысьпешыць абарону ад хваробы, да прышчэпкаў дадаюцца так званыя ад'юванты. Цяпер да вакцынаў для людзей дазволена дадаваць толькі адзін ад'ювант — спалучэньні алюміню (уваходзяць у склад вакцынаў ад слупняку, коклюшу і гепатыту), але навукоўцы плянуюць ужываць таксама ліпасомы, бялковыя ўтварэньні. Генэтыкі спрабуюць выкарыстаць розныя гены бактэрыйных таксынаў, якія адказваюць за тое, каб вірусы патраплялі ў клеткі лімфатычнае сыстэмы.

Невядома, у якім кірунку разьвіваліся б досьледы вакцынаў, каб не малекулярная біялёгія. Маніпуляцыі з генамі мікраарганізмаў, магчымыя з дапамогай геннай інжынэрыі — гэта шлях да пазнаньня іх функцыяў, а таксама мэтадаў іх нэўтралізацыі ў арганізме. Эдвард Джэнэр два стагодзьдзі таму альбо Люі Пастэр стагодзьдзе таму не маглі і марыць пра такія пэрспэктывы. Тым ня менш 22 мільёны людзей паміраюць штогод з прычыны інфэкцыйных хваробаў. І цяжка ўявіць сабе, што было б зь Зямлёю, каб не было сродкаў барацьбы зь імі.

*Падрыхтаваў Пятро Рагойша*

### ДАГЭТУЛЬ НЕ ІСНУЕ ПРЫШЧЭПКАЎ СУПРАЦЬ ХВАРОБАЎ

- **бактэрыйных:** запаленьня мазгавых шляхоў, ганарэі, пранцаў, струплі, раматусавай ліхаманкі, запаленьня кішкаў;
- **вірусных:** выкліканых вірусамі з групы Herpes (цытамэгаліі, інфэкцыйнага мононуклеозу, уласна герпэсу), AIDS і ліхаманкі Ляса;
- **паразытычных**, паміж іншага — супраць малярыі.



© НАША НІВА Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая Наклад 5000 Нумар падпісаны ў друк 28.03.1996 Надрукавана ў ЗАТ "Lietuvos Rytas" (Вільня, праспэкт Гедыміна, 12а)